Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 29 мая 1987 г. № 22 (3380) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У НУМАРЫ:



**Дваццаць першую вясну сустрэў беларускі вакальны квартэт «Купалінка». Ансамбль узнік, як вядома, у складзе Дзяржаўнага народнага хору БССР, затым дзяўчаты выступалі разам з «Харошкамі». І вось зусім нядаўна лаўрэат Міжнароднага конкурсу квартэт «Купалінка» — Алена ЦЯЛЬКОВА, Надзея ГУМЯНЮК, Ніна БРАНКОВІЧ і Надзея БАКАНАВА—стаў самастойным калектывам. Сёння, як і 20 гадоў назад, спявядае «Купалінка» хараство народнае песні...**

Фота Ул. КРУКА.



**Свята духавой музыкі адкрывае міністр культуры БССР Ю. М. МІХНЕВІЧ.**




**Ансамбль барабаншчыц Дома культуры прафтэхадукацыі.**

урачыстым адкрыцці прадстаўлення.

Марш-парад пачынае народны вакальны ансамбль ветэранаў вайны і арміі мінскага Дома афіцэраў. Па стадыёне праходзяць іншыя ўдзельнікі прадстаўлення — заслужаны артыст БССР В. Кучынскі, лаўрэат усесаюзных конкурсаў С. Кульпа, вакальна-інструментальныя ансамблі «Верасы», «Чараўніцы», «Сябры», Беларускі дзяржаўны эстрадны ансамбль «Песняры», Дзяржаўны ансамбль танца БССР, народны харэаграфічны ансамбль Міністэрства гандлю БССР «Чараўніцы», вядомыя самадзейныя калектывы. Марш-парад працягваюць зводныя духавыя аркестры Мінска і абласных цэнтраў, аркестранты з РСФСР, Літвы, Украіны, юныя спартсмены, навучэнцы прафесійна-тэхнічных вучылішчаў.

Спяваюць трубы зводнага духавога аркестра штаба Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, Мінскага музычнага вучылішча і музычных вучылішчаў вобласці. Хвалююць, кранаюць да глыбіні душы родныя, блізкія з маленства мелодыі «Варшавянкі», «Смело, товарищи, в ногу», «Вихрей враждебных»... Мы ўсе дзеці твае, рэвалюцыя, незалежна ад таго, у якім годзе нарадзіліся, кожнаму з нас дарагія, святыя паняцці — рэвалюцыя, савецкі патрыятызм, пралетарскі інтэрнацыяналізм. Радкі верша, якія лунаюць над стадыёнам, менавіта пра гэта:

*Усе мы родам з рэвалюцыі —*
За пакаленнем—пакаленне,
Год рэвалюцыі хвалюючы
Мы лічым годам нараджэння.

Жывём аднымі запаветамі,
Ідзём заўжды ў адных
калонах —
Бацькі з партыйнымі білетамі
І дзеці ў гальштуках
чырвоных...

Святочнае шэсце завяршае зводны аркестр. Не паспелі яго ўдзельнікі пакінуць бегавыя дарожкі, як у цэнтры зялёнага поля закружыла прафесійных і самадзейных танцораў заліхвацкая «Лявоніха»...

На бегавыя дарожкі імкліва выносяцца матацыклісты. Над першым — чырвоны сцяг. Над іншымі сцягі з надпісамі «1917», «Мир народамъ», «Власть Советамъ», «Заводы рабочимъ», «Земля крестьянамъ», «Хлеб голоднымъ»... Гучыць славутая «Каховка» ў выкананні С. Кульпы.

70 гадоў Вялікага Кастрычніка — гэта рэвалюцыя і грамадзянская вайна, першыя пяцігодкі, індустрыялізацыя краіны, калектывізацыя. Гэта яшчэ і Вялікая Айчынная вайна. Аб подзвігу народа — песня У. Высоцкага, фрагмент са спектакля паводле аповесці Б. Васільева «А досвіткі тут ціхія...».

Розныя перыяды з жыцця краіны, рэспублікі ажываюць у нумарах. Мовай танца, песні расказваецца аб шляху, пройдзеным народам пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі.

Гучыць у выкананні В. Кучынскага песня «Дзень добры, мір!». На полі стадыёна самыя юныя — дзяўчынкі і хлопчыкі, выхаванцы дзіцячых садоў Мінскага камвольнага камбіната, якія зрабілі падарожжа ў краіну Спартландыю. Азарту, з якім спаборнічалі іх каманды «Бураціна», «Чыпаліна», «Здаравяк», «Цвыркун», «Малыш», маглі б пазайздросціць і дарослыя. Пераможцам прадстаўнікі Мінскай кандытарскай фабрыкі «Камунарка» ўручылі ўзнагароды — медалі-цукеркі.

Завяршальныя акорды прадстаўлення... Сотні ўдзельнікаў яго падхопліваюць словы: «Брацтву жаданаму слава! Партыі слава ў вяках!» Гімнам жыццю, гімнам рэвалюцыі — яе прадаўжэнне сёння ў той перабудове, якая адбываецца ў жыцці ўсяго савецкага грамадства — і стала праграма «Рэвалюцыі вечны агонь».

Мастацка-спартыўнае прадстаўленне пад такой назвай прайшло ўжо ў многіх гарадах і вёсках рэспублікі. Група артыстаў у складзе 350 чалавек выязджала на Гомельшчыну. У аўторак і сераду асобныя творчыя брыгады выступалі ў Хойніках, Брагіне, Лоеве, Рэчыцы, іншых гарадах вобласці. Сёння ж вечарам — першае прадстаўленне на гомельскім стадыёне (у суботу і нядзелю адбудзецца па два выступленні).

Такія ж святы пройдуць і ў іншых абласцях рэспублікі.

**НАШ КАР.**



**Народны харэаграфічны ансамбль «Чараўніцы» Міністэрства гандлю БССР.**



**На зялёным полі стадыёна — артысты Дзяржаўнага ансамбля танца БССР.**



**Сваё майстэрства дэманструюць матацыклісты.**

Фота Ул. КРУКА

---

**грынаў, дакладчык Міхась Тычына, Адам Мальдзіс, Нічыпар Пашкевіч адзначалі плённасць укладу А. Чарнышэвіча ў развіццё беларускай савецкай літаратуры, гаварылі аб ідэйна-мастацкіх вартасцях яго твораў, у першую чаргу—рамана «Засценак Малінаўка».**

Тэкст і фота
Ул. КРУКА.

---

**Вершы, урыўкі з драматургічных твораў Яўгена Шабана прагучалі на літаратурным канцэрце ў рэспубліканскім Доме мастацтваў — артыстка філармоніі Г. Дзягілева пазнаёміла студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта з кампазіцыяй «Вяртанне», у якую былі ўключаны таксама беларускія народныя песні.**

**Успамінамі пра Я. Шабана падзяліліся паэтэса В. Акола-ва, выкладчык універсітэта М. Каваленка, памочнік галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы тэатра імя Якуба Коласа С. Дашкевіч.**

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

# «СУД АЛАІЗЫ» — НА СЦЭНЕ

**Народны тэатр Маладзечанскага гарадскога Дома культуры паставіў спектакль «Суд Алаізы» па п'есе Валянціны Коўтун. Са сваёй новай работай самадзейны калектыў прыехаў у Вільнюс. Спектакль быў паказаны ў Нова-Віленскай бальніцы, у якой у свой час працавала Алаіза Пашкевіч.**

**Прысутныя з хваляваннем сачылі за выканаўцай ролі паэтэсы Таццянай Бабей, знешне падобнай на Цётку. Яна стварыла шматгранны вобраз гераіні, у якім спалучыла трагізм яе кахання, патрыятызм і любоў да роднай зямлі. Цікава ігралі і выканаўцы іншых роляў.**

**Спектакль у бальніцы адбыўся дзякуючы праpraўнуку В. Дуніна-Марцінкевіча Л. Цімохіну і доктару В. Банайцісу з Новай Вільні, якія ўзялі на сябе арганізацыйныя клопаты. Усе, безумоўна, засталіся ўдзячныя і рэжысёру М. Мацкевічу, які ажыццявіў пастаноўку.**

**А. АНІШЧЫКЕНЕ.**

г. Вільнюс.



Гэты ж здымак зроблены раней, у Мінску, у Доме літаратара, дзе таксама быў паказаны спектакль «Суд Алаізы». Самадзейныя артысты пасля выступлення.

Фота Ул. КРУКА.




П. БРОЎКА. Заўсёды з Леніным. Вершы. На рускай мове. Ужгарад, «Карпаты», 1987.

**Закарпацкае выдавецтва «Карпаты» ўпершыню выпусціла зборнік паэзіі Петруся Броўкі. І вельмі сімвалічна, што прэм'ера беларускай паэтычнай кніжкі прыпала на юбілейны год — 70-годдзя Вялікага Кастрычніка і 65-годдзя ўтварэння Саюза ССР.**

**Ва ўступнай нататцы «Пясняр душы народнай» Таццяна Кабржыцкая расказвае пра творчы і працоўны шлях паэта.**

**Зборнік выдадзены 20-тысячным тыражом.**

**Вельмі дапамагаюць чытачам заўвагі складальніка зборніка В. Рагойшы.**

**Большасць перакладаў зрабіў Я. Хелемскі.**

**П. КАПЧЫК.**




П. КАВАЛЁЎ. Пакінь нас, трывога. Аповесці і апавяданні. Аўтарызаваны пераклад з беларускай. М., «Советский писатель», 1986.

**Тры аповесці і пятнаццаць апавяданняў склалі змест гэтай кнігі аднаго са старэйшых беларускіх пісьменнікаў Паўла Кавалёва.**

**У аповесці «Дзень першы, ноч апошняя» расказваецца пра першых супрацоўнікаў органаў унутраных спраў Магілёўшчыны. Дакументальнасць асновы надае твору яшчэ большую праўдзівасць і пераканаўчасць. Узаемаадносіны бацькоў і дзяцей прасочваюцца ў аповесці «Пакінь нас, трывога». Праблемы жыцця вёскі даследуюцца ў аповесці «Справы і людзі».**

**Разнастайная тэматыка і апавяданняў — дзень учарашні і сённяшні ў іх перакрыжоўваюцца між сабой.**

**Творы пераклалі Г. Папоў, Ф. Заяц, І. Пятрова, Я. Мазалькоў.**



І. МІЛЕЎ. Пан Трымай Мой Парасон. Аповесці пра Непаседу. Пераклад з балгарскай. Мінск, «Юнацтва». 1986.

**Убачыла свет яшчэ адна балгарская кніжка для дзяцей, перакладзеная на беларускую мову У. Анісковічам. За вокладкай з незвычайнай, на першы погляд, назвай юны чытач знойдзе цікавыя, захапляльныя гісторыі, у якія трапляе хлопчык Непаседа, яго сябры Ласунок і Шчабятушка, яшчэ раз пераканаецца, што сапраўднае сяброўства дапамагае ў розных складаных жыццёвых сітуацыях. Кніжку гэтую склалі дзве аповесці вядомага балгарскага пісьменніка Іярдана Мілева «Непаседа» і «Магараджаў скарб».**

**Як паведаміў балгарскі штотыднёвік «АБВ», у Кіеве ў выдавецтве «Веселка» гэтая ж кніжка І. Мілева выйшла на ўкраінскай мове ў перакладзе Анатоля Чэрдаклі.**



# Выхаваць ЧЫТАЧА

АПОШНІМ ЧАСАМ на старонках штотыднёвіка часцей сталі з'яўляцца публікацыі па пытаннях дзіцячай літаратуры. Зацікаўлена і з клопатам аб якаснасці твораў, адрасаваных юнаму чытачу, выказалі свае думкі А. Бадак, С. Кавалёў, Я. Каршукоў, М. Янчанка, М. Яфімава. Хацелася б, каб разгарнулася канструктыўная размова па гэтай праблеме, каб у ёй прынялі ўдзел не толькі пісьменнікі і крытыкі, але і выхавацелі, настаўнікі, бацькі.

Сёння няма патрэбы даказваць, што менавіта з маленства ўражлівыя дзіцячая душа і памяць прыносяць у дарослае жыццё многія крытэрыі і ацэнкі, а матчына, бацькава слова выхоўвае, уплывае на фарміраванне духоўнага аблічча будучага грамадзяніна. Гэта аксіёма. І пра гэта варта помніць усім нам, дарослым, і асабліва тым, хто мае прамое дачыненне да выхавання словам.

Мала садзейнічаюць прывіццю цікавасці і любові да роднай мовы і літаратуры праграмы выхавання і навучання ў дзіцячым садзе. Цікаўным прапаную зазірнуць у кнігу для выхавацеляў дзіцячых садоў «Почитаем вместе» (Мн., «Народная асвета», 1984). Кніга ўяўляе сабой хрэстаматыю мастацкіх твораў, якія прапануюцца дзецям старэйшай групы для пераказу, чытання, завучвання на памяць. Так, на прыклад, у другім квартале праграма і адпаведна хрэстаматыя рэкамендуюць пазнаёміць дзяцей з 27 мастацкімі творамі. Але толькі 3 з іх належаць роднай літаратуры: беларуская народная казка «Як курачка пеўніка ратавала», А. Александровіч — «Працавітая дзяўчынка», Я. Колас — «На рэчцы зімою». Прыкладна такія ж колькасныя суадносіны і ў іншых кварталах усіх узроставых груп.

У 1986 годзе Упраўленне па дашкольным выхаванні Міністэрства асветы БССР выдала новую праграму для выхавання і навучання ў дзіцячым садзе. З надзеяй зазіраю ў раздзел «Развіццё мовы»: не можа быць, каб становішча не палепшылася!... Але змен амаль няма.

Для таго, каб праграма адпавядала задачам сённяшняга грамадскага і культурна-асветніцкага жыцця рэспублікі, садзейнічала іх вырашэнню, у яе ў значна большым аб'ёме неабходна ўключыць творы беларускай літаратуры. Перш за ўсё трэба рэкамендаваць надзвычай багаты дзіцячы фальклор, а таксама лічылкі, пацешкі, загадкі, казкі В. Віткі, С. Шушкевіча, Э. Агняцвет, С. Грахоўскага, Н. Гілевіча і іншых. Усё гэта не павінна выклікаць асаблівых цяжкасцей у працы выхавацеляў, педагогаў дзіцячых дашкольных устаноў, бо яны падрыхтаваныя да такой работы: у педвучылішчах, ВНУ на факультэтах дашкольнага выхавання чытаецца салідны курс лекцый, праводзяцца семінарскія і практычныя заняткі, студэнты здаюць залік і экзамен па беларускай дзіцячай літаратуры. Аднак прымяненне гэтых ведаў не прадугледжваецца праграмай выхавання ў дашкольных установах.

Можа, таму і сённяшняя літаратура для дзяцей не такая багатая, як хацелася б, што вузкі попыт на яе? Бо, як кажуць, які попыт, такая і прапанова.

Давайце пацікавімся, што мелі магчымасць пачытаць нашы дзеці ў мінулым годзе ў рэспубліканскіх часопісах «Вясёлка» і «Бярозка». Не толькі будзяць цікаўнасць, але і з'яўляюцца своеасаблівым заклікам да справы, у прыватнасці, да збору краязнаўчых матэрыялаў «Урокі думкі», якія праводзіў на старонках «Вясёлкі» В. Вітка. Проста і нязмушана пісьменнік гутарыць з юнымі чытачамі пра самае важнае і галоўнае ў жыцці. «Калі няма ўжо жывых тваіх бабулі і дзядулі... ці ведаеш ты, хто яны былі, як зваліся?.. А хто твае прадзеды?.. Твая памяць — гэта памяць твайго роду... Род і народ яднаюцца адным дарагім словам — Радзіма».

У пашане ў «Вясёлкі» казка. Яна ёсць амаль у кожным нумары, часцей гэта казка не народная, а літаратурная, аўтарская. У другім нумары «Вясёлкі» надрукаваны нават дзве казкі: «Казка пра Лялькy Бігі» Я. Радкевіча і «Хлебная крошка» Т. Дзеравягінай. Добрая задума ляжыць у аснове першай казкі — давесці да маленькіх чытачоў, што «самая зразумелая з усіх моў — мова дружбы. І ўсе, хто жадае людзям дабра, хто хоча дружыць, абавязкова зразумеюць адзін аднаго, на якой бы мове яны ні гаварылі». Але, на жаль, гэта цудоўная думка праводзіцца ў творы даволі дэкларацыйна. Няма пераканальнага захапляючага сюжэта. Падзеі разгортваюцца будзённа, не выклікаюць суперажывання, эмацыянальнага ўзрушэння чытачоў, няма для іх адкрыцця. Тата прывёз з замежнай камандзіроўкі сваёй дачушцы незнаёмую Лялькy Бігі, якая загаварыла з дзяўчынкай на нечакана зразумелай мове — мове дружбы.

Не шкодзіць і сёння звярнуцца да вопыту народнай казкі, якая заўсёды мае павучальнае значэнне. У добрай казцы «педагогіка» схавана ў падтэксце, перадаецца мастацкай сутнасцю вобразаў, персанажаў, іх учынкаў, а не абвяшчаецца, як гатовы пастулат. Адкрыты дыдактызм пазбаўляе ў значнай ступені мастацкасці казку І. Галубовіча «Як вавёрка зіму сустракала» («Вясёлка», № 11). Больш дасканалай з'яўляецца казка Т. Дзеравягінай «Хлебная крошка». Натуральна і нязмушана ў юнага чытача ўзнікае пытанне: чаму ў руце гультая хлебная крошка ператварылася ў камень, а для дзяцей, якія ў цяжкія дні вайны дапамагалі дарослым у тыле — збіралі пшанічныя каласкі, — была смачнай і духмянай?

Вартая ўвагі па сваёй задуме і казка Г. Шыловіча «Два словы на адну літару» («Вясёлка», № 4). Цікавасць чытача да твора выклікае ўжо сам зачын: «Два словы: сена і смецце. Пачынаюцца на адну літару, а сэнс у іх розны. Цяпер пра гэта ведае і малады крумкач, які застаўся жыць побач са старым у Налібоцкай пушчы...» У казцы апавядаецца, як кураслеп, падхвачаны ветрыкам, паляцеў-пакаціўся, падмятаючы дарожны пыл, і «з травінкі духмянага лугавога сена стаў звычайным смеццем». Як бачым, у аснове твора праглядаецца сур'ёзны падтэкст, алегарычная вобразнасць абуджае думку аб месцы і прызначэнні чалавека ў жыцці. Але ці здольны ў дадзеным выпадку юныя чытачы самастойна дайсці да такога вываду? Думаецца, што ў казцы не рэалізавана ідэйна-мастацкая сутнасць вобраза старога птаха — Крумкача. Ён у творы Г. Шыловіча як бы лішні, неабавязковы, бо не нясе выразнай сэнсавай і эмацыянальнай нагрузкі.

Варта звяртацца да народнай казкі і для таго, каб яшчэ раз падзівіцца яе займальнасці, вострасюжэтнасці. Такой павінна быць і добрая літаратурная казка, калі аўтар хоча выклікаць актыўнае суперажыванне чытача. Менавіта гэтага бракуе многім літаратурным казкам «Вясёлкі». Яны, як правіла, мала займальныя, сумныя і таму не ўражваюць, не захапляюць, не запамінаюцца. Гэта можна сказаць пра казку С. Тарасава «Рэха» («Вясёлка», № 6). У ёй прысутнічае вобразнасць, сакавітасць мовы, але казачнасці, таямнічасці, адкрыцця няма.

Казкам «Вясёлкі» часта не хапае мастацкай арыгінальнасці, што, відаць, ускосна сведчыць пра адпаведны ўзровень творчай культуры аўтараў. Так, Ганарлівая Страказа з аднайменнай казкі Т. Цікач («Вясёлка». № 7) вельмі нагадвае сабой Цвіркуна з казкі Я. Коласа «Цвіркун». Але структура і ідэйна-мастацкая нагрузка вобраза ў Я. Коласа значна багацейшая, глыбейшая.

Спробу пленнага развіцця традыцый фальклору, «Казак жыцця» Я. Коласа ўяўляе сабой казка М. Валошкі «Дуб-заступнік» («Вясёлка», № 10). У творы востры драматычны канфлікт, што выклікае актыўнае суперажыванне чытача. Дуб у гэтай казцы — традыцыйнае ўвасабленне фізічнай моцы і духоўнай стойкасці. Ратуючы жыцці маленькіх шпачанятак, Жаўтароціка і Чарнушкі, ён уступае ў смяротны паядынак з усемагутнай маланкай. Дуб гіне, але працягваюць сваё жыццё малыя птушаняты.

Безумоўна, трэба падтрымліваць намаганні аўтараў ствараць сучасную літаратурную казку для дзяцей. Але якраз прыкметы сучаснасці і адсутнічаюць у названых казках. Змест іх безадносны да часу, да важнейшых падзей сучаснасці. Выключэнне складае, бадай, ужо казка Т. Дзеравягінай «Хлебная крошка».

Несумненна, што наш юны чытач з вялікай цікавасцю чытаў бы сучасную казку, напоўненую сённяшнім зместам. У сувязі з гэтым прыгадваюцца «Касмічнае падарожжа мураша Бадзіні» М. Танка, «Ліса з магнітафонам» С. Шушкевіча.

Казка, народная і літаратурная, звычайна ўвасабляе маральна-этычны і філасофскі вопыт сваіх стваральнікаў і сцвярджае «вечныя ісціны». Можа скласціся памылковая думка, што магчымасці казкі ў адлюстраванні барацьбы ідэалаў сучаснасці абмежаваныя. Але гэта не так. Варта ў якасці прыкладу нагадаць аповесць-казку З. Бядулі «Сярэбраная табакерка», успомніць, як па-майстэрску захапляюча расказвае пісьменнік аб барацьбе дабра і зла, наколькі максімальную эстэтычную і экспрэсіўную функцыю выконваюць усе вобразы: Дзіва-Дзед, Юрка Дратва, пані Сарачынская і інш.

Якой павінна быць сённяшняя казка для дзяцей? Даць дакладны рэцэпт нельга. Зразумела адно — цікавай, займальнай, павучальнай. Менавіта такімі, як справядліва заўважае М. Яфімава («ЛіМ», 27.03.1987), і з'яўляюцца лепшыя казкі В. Віткі, У. Дубоўкі, С. Шушкевіча. Для стварэння добрай дзіцячай казкі ёсць надзейны арыенцір — народны казачны эпас, які варта добра ведаць, а яго традыцыі плённа развіваць.

Багата і разнастайна прадстаўлена паэзія на старонках часопісаў «Вясёлка» і «Бярозка». Як правіла, кожны нумар «Вясёлкі» адкрываецца адпаведнымі месяцу вершамі: студзеньскі нумар — вершамі П. Макаля і М. Маляўкі пра зіму, майскі нумар — вершам М. Чарняўскага «Май», ліпеньскі нумар — вершам І. Скурко «Ліпень», восьмы нумар часопіса — вершам В. Гардзея «Жнівень» і г. д. Гэта, безумоўна, розныя па сваіх вартасцях творы, але тут, відаць, важней іншае — стварэнне своеасаблівага паэтычнага календара для юных чытачоў.

Па-мастацку дакладна стварае пейзажны малюнак У. Скарынкін у вершы «На Ласіным возеры» («Вясёлка», № 7):

**Там сонца з неба сіняга**
**Дае ў ваду нырца.**

За радкамі адчуваецца замілаванне і любоў аўтара да мясцін роднага краю. Ва ўяўленні чытача адзін за адным паўстаюць канкрэтныя і светлыя малюнкі, краявіды.

Радасць і паўната жыцця, суладдзе і гармонія ў прыродзе, жыцці і працы чалавека перададзены ў вершы І. Скурко «Ліпень» («Вясёлка», № 7).

**Калі зняможа ад турбот**
**Увішны месяц ліпень,**
**Абмые пыл, абмые пот**
**Гарачы, добры лівень.**

Метафарычная вобразнасць гэтага верша даступная дзіцячаму ўспрыманню. Дакладнасцю і маляўнічасцю адлюстравання жыцця вызначаюцца вершы Р. Барадуліна, М. Чарняўскага ў «Вясёлцы» № 5.

Аднак не ўсе вершы, змешчаныя летась на старонках нашых дзіцячых часопісаў, можна лічыць удалымі, не ўсе адпавядаюць псіхалогіі дзіцячага ўспрымання жыцця. Гуллівае шматслоўе, імкненне знайсці незвычайны вобраз-метафару часта перашкаджаюць зразумець не толькі дзецям, але і даросламу чытачу, аб чым ідзе размова ў творы:

**...Стала сонейка манетным,**
**Невялікім медзяком,**
**Ну а там, далёка недзе,**
**Дзе зямля сышлася з небам,**
**Як вялікая скарбонка**
**Сіняя зямля стаяла.**
**І па медзяку штовечар**
**На гарыстай той сінечы**
**У скарбонку медзяную**
**Неба весела кідала.**
(К. Камейша, «Вясёлка», № 9)

У другім нумары «Бярозкі» змешчаны вершы С. Панізніка «Зоркі», «Сцяг», «Ветразь», «Жывіца». Узнікае пытанне, наколькі адпавядаюць яны мэтам дзіцячага часопіса, бо за многімі радкамі юнаму чытачу цяжка ўбачыць канкрэтны змест.

**Добрае неба дзяцінства**
**Не сцялі фашысцкія хціўцы.**
**Мой бацька шынель**
**разгарнуў —**
**вольнае неба дзяцінства**
**на зоркі, пад зоркі вярнуў.**

Памятаючы, што дзеці мысляць больш канкрэтна, сумняваешся: ці ўспрымуць яны верш? Адцягненай асацыятыўнасцю вызначаецца і верш «Жывіца» з гэтай жа нізкі. Цяжка зразумець, што хацеў сказаць аўтар радкамі:

**А праз вякі —**
**Сонейкам**
**ён скаціцца (жывіца.— З. М.)**
**ў далоньку маёй рукі.**

На гэтай жа старонцы змешчаны малюнак А. Глобуса. Гэта сапраўдны рэбус. Няма назвы да малюнка, якая б памагла зразумець задуму аўтара. На ім намаляваны некалькі пяцікутных зорак, васьмікутнікі і многа іншых геаметрычных фігур, размешчаных хаатычна — шматвугольнікі, кружкі, рысачкі, кропачкі... Ці патрэбны такія абстракцыі літаратурна-мастацкаму дзіцячаму часопісу?

На жаль, поруч з паэтычнымі знаходкамі на старонках нашых дзіцячых часопісаў усё яшчэ трапляюцца драбнатэм'е і шэрасць. Рэдакцыі павінны займаць у адносінах да такіх твораў прынцыповую пазіцыю, адчуваць большую адказнасць перад сваім чытачом, памятаючы, што матэрыялы «Вясёлкі» і «Бярозкі» выкарыстоўваюцца ў школе для пазакласнага чытання, выхаваўчай работы, на ўроках роднай мовы і літаратуры.

**Зоя МЕЛЬНІКАВА.**
г. Брэст.

# АГНІ Ў ДВА БАКІ

«Гэта цень мой вярнуўся дамоў...» — так Леанід Дранько-Майсюк пачаў першую сваю кнігу «Вандроўнік».

«Ёсць пачуццё, і дастаткова..» — так пачаў ён кнігу другую, «Над пляцам».

У радках гэтых розныя словы — аднолькавы стан. Толькі ў ранейшым радку больш трывогі, а ў пазнейшым—больш спакою. Бо прайшлі гады — і цяпер з таго, што нешта незваротна губляецца, не так страшна. І не гэтак палохаюць прагныя спробы душы замяніць страчанае тым, што шукаеш,— не ведаючы, ці знойдзеш. Зразумелася і ўсвядомілася непазбежнае. І ўспомніўся матчын радок: «Адзін, як вока ў лобе».

З радком гэтым, як нанава ўспомненым, з раптоўным усведамленнем таго, кім і чаму ён мовіўся, напішацца спачатку разгублены верш («Матчын радок»), які прадоўжыцца пасля вершам супакоеным:

**Люблю адзіноту,**
**Люблю адзіноту скразную,**
**Да шляху падобную ў вырай**
**Праз далеч сваю і чужую.**
(«Магчымасць збавення»).

«Якая там далеч, якія гады, які вырай?.. — здзівіцца пашнараны ў міжсабойнай валтузні крытык, для якога і Разанаў, і Янішчыц яшчэ немаўляты. — Малады паэт!..»

А маладому паэту сёлета трыццаць гадоў. Як і амаль усім астатнім, хто дамогся ў нас гонару называцца маладым паэтам, каго ў літаратурна-алімпійскіх гульнях адзначылі бронзавым медалём.

Амаль усіх іх з першых публікацый мякка папракалі і сурова дапытвалі: дзе ў вашых вершах цудоўная сучаснасць і светлая будучыня? Чаму вы чапляецеся за дзяцінства, за вёску, за мінуўшчыну, за гісторыю, наогул за былое, хай нават яно і святое?

А за што ім чапляцца?

Усё іх свядомае жыццё прыпадае на час вонкавага дабрабыту і ўнутранай разрухі, калектыўнай перакананасці і асабістай безвыходнасці. Гэта пры іх, на іх вачах дэкларавалася адно, а рабілася зусім іншае, пра што ніхто з нас нібыта ведаць не ведаў, а цяпер яно ўсім нам раптам адкрылася. І калі ёсць тут з чаго здзіўляцца, дык хіба толькі з таго, што не ўсе яны — як, зрэшты, і мы — сталі гандлярамі, лазеншчыкамі, барабаншчыкамі, прыёмшчыкамі пустога посуду. Хто-кольвечы стаў і паэтам. Хоць пакуль і маладым:

**Неспадзяваны, выпадковы**
**У два бакі нясе агні**
**Рух апантаны, цягніковы,**
**Шалёны, божа барані!**
(«Каля чыгункі»).

Хіба тут нямашака адчування часу і сталага яго разумення?..

Развучыўшыся ўспрымаць перш-наперш эстэтычнае ў вершы, бескарыснае, а пасля ўжо ўсё астатняе, што на карысць, цяжкавата разабрацца, хто, з чым і для чаго прыходзіць сёння ў паэзію:

**Раскладваць вогнішча у возе,**
**Як секчы дровы**
**на парозе —**
**Вар'яцтва! Але ўсё ж прашу**
**Незразумелага мастацтва**
**Доўгачаканыя дзівацтвы, —**
**Ускалыхніце мне душу!**

**Не толькі рыфмай ці радком,**
**Што неспадзеўкай душу**
**лашчыць,**
**А чым заўгодна, хоць ваўком**
**З метафарай у чорнай**
**пашчы...**

**Ён зразумелы для мяне,**
**Як неба роднае і людзі,**
**Пакуль бяжыць, пакуль імкне,**
**Пакуль метафары не згубіць.**

Назву гэтага верша я мог бы пазначыць таксама, як і назвы вершаў папярэдніх — у канцы і ў дужках, аднак лічу важным падкрэсліць асобным радком, што называецца верш «Перад спрэчкай». І ў спрэчцы гэтай, далёка не новай, але сёння зноў актуальнай, якая мае быць адразу пасля таго, як мы агледзімся па баках і ўбачым штосьці наперадзе, я на баку Дранько-Майсюка. Бо на другім баку — небяспека страціць паэзію як паэзію, падмяніць яе ў лепшым выпадку філасофіяй, сацыялогіяй, палітыкай, а ў горшым— чорт ведае чым. І ўзаконіць такую падмену, што мы спрытна навучыліся рабіць, засвоіўшы вопыт і 30-х, і 40-х, і 50-х гадоў, а да вопыту гэтага маючы яшчэ і ўвішных нашчадкаў Бэндэ, якім духоўны іх бацька завяшчаў сваю справу святой літаратурнай інквізіцыі... Так што ўсе сёння глядзяць у будучыню — і кожны свайго часу чакае.

**Табе вандраваці няспынна,**
**Палохаці і чараваць,**
**Па золаце кожнай краіны,**
**Нібыта па смецці, імчаць.**

**Прамчыся па вуліцах Менска,**
**Здаволься магчымым, тады**
**Хай пойдзе твой грукат і**
**трэскат**
**Да іншай зямлі і вады!**
(«Кола»).

Неаднойчы сустракалася мне друкаванае — у тым ліку і ў адносінах да Л. Дранько-Майсюка — вызначэнне «філалагічны паэт». Не таленавіты, бачыце, ці бяздарны, не лірычны ці эпічны, а філалагічны. Адукаваны, маўляў, хоць і з нашага мястэчка. Калі і ёсць у такім вызначэнні нейкая пахвала, дык яе мала, бо яна сапраўды местачковая, а болей тут усё тых жа даўно знаёмых спроб падмяніць сутнасць паэзіі, выдаць за асноўнае ў ёй не эстэтычны, мастацкі, а сацыяльны змест. Філалагічны — значыць, кніжны, а значыць, не ў віры падзей, не б'е ў званы і не грукае ў дзверы.

Я не падсякаю сук, на якім сяджу: я за актыўнасць, за тое, каб быць у віры падзей, каб грукацца ў дзверы. Але з вершамі ў кнігах, з паэзіяй грукацца, а не...

Мне даспадобы, што ў час, калі «збіліся ў гурбу гадзіны на зрушаным цыферблаце», Л. Дранько-Майсюк, наогул ягонае пакаленне, займаецца пераважна тым, чым павінен займацца літаратар: літаратурай. Бо ў нашым цэху значна паболела меліяратараў, эколагаў, грамадскіх дзеячаў, а Палессе як высушвалася, так высушваецца, а да салігорскіх тэрыконаў мы займелі яшчэ і радыёактыўныя плямы Чарнобыля...

Чаму? Я перакананы: адна з прычын тая, што паболела меліяратараў — і паменела літаратараў. Хоць, вядома, не самі па сабе яны зменшыліся, не вымерзлі. Яны не мамантры.

Імпануе мне пагляд Л. Дранько-Майсюка і ягонага пакалення ў гісторыю. Прадаўжаючы гістарычную міфатворчасць Уладзіміра Караткевіча, яны спрабуюць нарасціць у літаратуры слабенькі пакуль гістарычны пласт, узмацніць падмурак, на якім толькі і можа стаяць — будавацца сапраўдная культура. Іншым разам, праўда, яны занадта захапляюцца гэтым, гоняць коней выключна ў пагоню, але такой бяды: ці так ужо шмат у нас захаплення ўласнай гісторыяй?

Дзе захапленне — там любоў. А дзе любоў — там надзея. І вера ў тое, што

**Не здзічэе месца,**
**Дзе працавалі жорны.**
(«Васіль і Люба»).

Адзін з вершаў кнігі «Над пляцам» называецца «Віцебск. 1922», дзе «ў нейкім закутку базарнага раю купляе Шагал малаткі і цвікі, і слоікі з фарбамі выбірае».

У нас быў не адзін Мінск, мы мелі некалькі цэнтраў культуры — куды ўсё падзелася? «Иных уж нет, а те далече», Шагал з'ехаў за мяжу, а ўсё астатняе перацягвалася, пераманьвалася ў сталіцу — і што?.. Ці не глянуць нам на кірунак руху?» Перасыпаць старую адрыну, перабраць мікалаеўскі плот».

**Вярнуцца да Віцебска з**
**клічам, які**
**Узвіхрыць будзённасці шэрыя**
**транты:**
**«Не спіце, лянівыя вартаўнікі,**
**Бо сноўдаюць злодзеі і**
**спекулянты!»**

Паэзія Леаніда Дранько-Майсюка — лірычная плынь, раўнінная рака з вірамі і быстрынёю. Мне, як чытачу, гэтага дастаткова, але самому паэту часам здаецца, што энергіі не хапае — і ён пачынае ўзводзіць штучныя плаціны. Такая гідраінжынерыя, зрэшты, заканамерная, але заканамерна і тое, што рака ў такіх выпадках затапляе палі, дзе б магло ўскаласіцца жыта, а вада з плаціны толькі падае, гудзе — і прыгожа ляцяць пыркі:

**Ты магутнікам стань на**
**зямлі!**
**..Тым я стаў на зямлі, кім**
**прасілі.**
**Долу ніцма — паны, каралі...**
**Горы, дрэвы галовы схілілі.**

У той жа час менавіта з гэтага верша, напаткаўшы яго ў перакладзе на рускую мову ў часопісе «Юность», дзе ён выглядаў яшчэ больш гідраінжынерам, я пачаў сачыць і за іншымі публікацыямі сапраўды маладога тады паэта. Зацікавілі мяне не гул і пыркі, глянулася тое, што чалавек здольны ствараць плаціны. А гэта ўжо хоць што-небудзь ды значыць:

**З талеркі**
**Сярэбраны яблык вазьму —**
**Да столі падкіну высокай.**
**І пройдзецца велічны гром па**
**ўсяму**
**Палессю —**
**жанчыны да вокан!**

Во яно як... І хай сабе. Бо гэта ж не «богам створаная проза», а «д'яблам выспеныя вершы», справа трошкі грэшная. А праз тое і спавядальная... Не ў грамавым гэтым раннім вершы, а ў пазнейшых, дзе паэт сам для сябе адкрые, што спавядальнасць — і ёсць ягоная сутнасць.

Вось, бадай, і ўсё.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.**

*Сярод тых, хто папоўніў у апошнія гады шэрагі літаратурнай моладзі, вылучаецца імя Леаніда Дранько-Майсюка. Сёлета ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыў свет другі па ліку яго паэтычны зборнік «Над пляцам».*

*На выхад гэтай кнігі адгукнуліся паэт Уладзімір Някляеў і выкладчык універсітэта з Гомеля А. Ненадавец. Калі таварыш па пяру разглядае творчасць Л. Дранько-Майсюка ў шырокім кантэксце сучаснай маладой паэзіі і грамадскіх змен, то чытач асноўную ўвагу звяртае на змест і паэтыку вершаў.*

*Не ўсе меркаванні А. Ненадаўца мы падзяляем. Аднак тэматычная і стылявая нязвыкласць вершаў Дранько-Майсюка дае падставу для разгляду іх з розных пунктаў гледжання.*

# «МНЕ ПАТРЭБНЫ БЫЛІ ПАРАЎНАННІ»

ВЕРШЫ маладых паэтаў выклікаюць звычайна асаблівую зацікаўленасць чытачоў. Сустрэчы з новым, своеасаблівым словам чакаеш і на старонках паэтычнага зборніка Л. Дранько-Майсюка, «Над пляцам». Паспрабуем разабрацца, якім ён атрымаўся, ці апраўдала кніга спадзяванні тых, хто яе чакаў.

Чытаючы вершы Л. Дранько-Майсюка, адразу звяртаеш увагу на тое, што паэт вельмі любіць сваю малую радзіму - Палессе, свой родны Давыд-Гарадок, у якім прайшло яго маленства, дзе ён разам са сваімі школьнымі сябрамі назіраў веснавы разліў сваволніцы Гарыні, дзе гэтак хораша цвітуць летам жоўтыя шольсіі, дзе засталося незабыўнае юнацтва, якое часам стыхійнымі салодкімі ўспамінамі ўрываецца ў жыццё:

**Пра што мы згадаем,**
**Пра што запяём,**
**Куды мы на лета паедзем?..**
**І лютаўскі вецер,**
**І ліпеньскі гром**
**Спрыяюць сардэчнай бяседзе.**
(«Валя»).

Хораша гучаць таксама творы, прысвечаныя своеасаблівай, таямнічай палескай прыродзе. Аўтар умее ў звычайнай з'яве, якую мы назіраем штодзённа, знайсці прыгожае, непаўторнае. Чытаючы такія вершы, адчуваеш, як паэт паступова «ўдыхвае жывую душу» ў тыя прадметы, якія раней у яго творчасці не ажывалі. Здаецца, што з намі паважна размаўляе велічная Гарынь-рака, снег, трава, сад, нават вечар, які «намотвае шэрыя клубкі ранняга прыцемку на ражкі штыкетніку», і хмаркі, што «выбаўляюцца з дрыготкіх плямаў дня і шукаюць для сваіх лапак вячэрняга седала» («Проза радасці»).

Моцнымі атрымаліся і вершы, у якіх аўтар з замілаваннем і любоўю стварае шматгранны вобраз маці, апавядае пра яе нялёгкі жыццёвы шлях. Менавіта да яе даводзілася звяртацца Л. Дранько-Майсюку за парадай, дапамогай у цяжкія моманты жыцця:

**Мамачка,**
**Давай мы пагаворым**
**І пра тое, як раней было,**
**І пра тое, як глядзелі зоры**
**На акуты куфар і вясло.**
(«За ракою»).

Даволі ўдалымі можна назваць і творы, прысвечаныя памяці М. Шагала («Віцебск. 1922»), Уладзіміра Дубоўкі («Кола»). Аўтар слушна разважае аб ролі мастацтва, літаратуры ў станаўленні першага ў свеце сацыялістычнага грамадства, паказвае, як баяліся палымянага слова і вогненнага пэндзля ворагі, як стваралі розныя перашкоды на іх шляху.

Л. Дранько-Майсюк вядзе свайго лірычнага героя нязведанымі сцяжынкамі вандраванняў, знаёміць яго з краінай маленства («Сцэны»), равеснікамі, іх справамі і марамі («Галубок»), звяртаецца да гістарычнага мінулага Беларусі («У Менску», «Пляц волі»).

Усё, здаецца, добра, але давайце паспрабуем глянуць і на другі бок медаля. Далёка не ўсё ў аднолькавай меры ўдалося Л. Дранько-Майсюку ў яго новай кнізе. Некаторыя творы атрымаліся расцягнутымі, думка паэта ў іх неяк «расплылася», і чытачу, хаця і зразумелая ўвогуле асноўная аўтарская задума, цяжка разабрацца ў тым, што ж асабліва хацеў падкрэсліць аўтар, на чым ён акцэнтаваў сваю асноўную ўвагу. Возьмем, напрыклад, верш «Бондар». Перад намі хутчэй за ўсё падрабязнае, дакладнае апісанне працэсу стварэння новай бочкі, якая ў рэшце рэшт атрымалася прыгожая і гулкая, а вось што тычыцца самога верша, то ён так і не зазвінеў.

Болей таго, часам дзіву даешся, як свабодна паэт рыфмуе словы ў радкі, прычым, даволі часта сумяшчае нават несумяшчальнае:

**Кранецца промень палівачкі,**
**І можна баечку сплясці.**
**Як певень бег да дзікай качкі**
**Па градах, купінах, трысці.**
(«Заляцанне»).

Нам застаецца тут толькі гадаць, што гэта: узлёт творчай фантазіі? Ці паэтычная смеласць, якой наканавана «падагрэць» інтрыгу? Бедалага-певень, якому, мабыць, страшэнна надакучыў курыны гарэм, апынуўся ў цяжкім становішчы, але і для сябе паэт стварыў у дадзеным выпадку незайздросную сітуацыю...

Ці вось яшчэ такі займальны прыклад:

**Густое воблака скубуць,**
**Хвастамі засцячы паўнеба.**
**Лімонныя, як пальцы негра,**
**Струменні малака цякуць.**
(«Каровы»).

Няцяжка здагадацца, што «густое воблака» — гэта трава, якую шчыпаюць каровы. Але вось якім чынам паэт умудрыўся паставіць бедных жывёлін так, што яны сваімі хвастамі «засцяць» яму паўнеба? Да таго ж параўнанне «лімонных струменяў малака» з пальцамі негра, на маю думку, занадта адвольнае.

Не заўсёды апраўданыя і прадуманыя некаторыя іншыя параўнанні. Так, напрыклад, у вершы «Сад у красавіку» чытаем:

**Той сад падобны да сабакі,**
**Чакае ён гаспадара.**

У адным са сваіх вершаў («Два вершы») аўтар зборніка піша: «Мне патрэбны былі параўнанні, бо так нас вучылі ў літаратурным інстытуце». Што тычыцца вучобы, то вучылі, мусіць, правільна, але што тычыцца такіх параўнанняў, то аўтар, шукаючы сваё, арыгінальнае, губляе падчас пачуццё меры.

Некаторыя творы Л. Дранько-Майсюка, што называецца, азадачваюць сваёй няпэўнасцю.

**Ты бачыш міску на стале**
**І ў місцы шэрую вужаку?**
**На ёй у залатым святле**
**Расы ці пылу ані знаку.**
(«Вужака»).

Пра што гавораць прыведзеныя радкі? Сапраўды, у беларускім народзе вядома старажытнае павер'е (у прыватнасці, на Палессі яно бытавала шырока, а ў некаторых мясцінах бытуе яшчэ і зараз), — гэта павер'е аб пакланенні беларусаў звычайнаму вужу. Многа расказваюць і пра «дамашніх» вужоў, якія жылі ў хатах разам з людзьмі. Дзеці, як з цацкамі, гулялі з імі, іх аберагалі, і калі сям'я садзілася за стол есці, то налівалі асобна і вужу. Але тая міска была не на стале, а пад сталом. І таму, калі чытаеш верш «Вужака», то так і нельга зразумець, што гэта: своеасаблівая трактоўка паэтам народнага павер'я ці нейкая патаемная задума Л. Дранько-Майсюка, якую цяжка зразумець непадрыхтаванаму чытачу. Тым болей, што апошнія радкі твора таксама не праясняюць думку:

**Давай, вужаку, матляні**
**На дол знянацку**
**Ці на неба,**
**Густога крупніку налі**
**У міску з надпісам**
**«Smacznego».**

Усе гэтыя прыклады, прыведзеныя вышэй, здавалася б, дробязі, тым не меней яны прыніжаюць уражанне ад увогуле цікавага зборніка.

**А. НЕНАДАВЕЦ.**
г. Гомель.

ЧЫТАЧ ПРАЦЯГВАЕ РАЗМОВУ

# ГУТАРКА Ў НАС—АБ КУЛЬТУРЫ

Крытычныя і публіцыстычныя артыкулы на старонках «ЛіМа» закранаюць самыя істотныя пытанні модус вівэндзі нашага культурнага жыцця: застойнасць у літаратурным працэсе, залежы мастацкай літаратуры ў кнігарнях (пры адначасовым дэфіцыце добрых кніг), недахопы ў сістэме народнай асветы. У газету пішуць розныя людзі, выказваюцца не толькі эмоцыі, але і канструктыўныя парады і прапановы. У новым амплуа мы бачым некаторых знаёмых аўтараў, у прыватнасці, выдавецкіх работнікаў.

Штогод на старонках «ЛіМа» выступалі галоўныя рэдактары (або намеснікі) вядучых беларускіх выдавецтваў. Прадстаўлялі тэматычныя планы, чытач меў кароткую інфармацыю аб напрамку работы выдавецтва, аб рэпертуары і галоўных кніжных навінках наступнага года. Інфармацыя гэта нагадвала меню комплекснага абеду: ні выкінуць, ні дадаць, ні змяніць нічога нельга, а калі вы не задаволены — выбачайце, калі ласка! За тэмпланам стаяць не толькі супрацоўнікі рэдакцыі і аўтары, але і паліграфічная прамысловасць з яе планамі, лімітамі на паперу і матэрыялы, з яе непаваротлівасцю.

Раптам — нечаканасць — галоўны рэдактар выдавецтва «Юнацтва» Яўген Каршукоў («ЛіМ», 13.03.1987 г.) выступае з вялікім артыкулам не ў сувязі з тым, «чым парадуе выдавецтва ў наступным годзе». Перад грамадскасцю выдавецкі працэс высвечваецца «з сярэдзіны» — тлумачыцца такая з'ява, як перанос кніжак з плана ў план, раскрываюцца некаторыя аспекты ўзаемаадносін з аўтарамі. Нельга не пагадзіцца з Я. Каршуковым — сённяшні стан беларускай літаратуры, асабліва дзіцячай, не настройвае на аптымістычны лад. Прыклады, якія ён прыводзіць, відавочныя і пераканаўчыя.

А як мяркуе палепшыць стан літаратуры само «Юнацтва»? Якія захады робяцца для таго, каб паспрыяць прагрэсу беларускай дзіцячай літаратуры, калі не сёння, то ў будучым? На гэтыя пытанні артыкул Я. Каршукова адказу не дае. У рэшце рэшт выручаюць «Юнацтва»... «макулатурныя» выданні: яны даюць і тыражы, і лісты-адбіткі, і, галоўнае, патрэбны *прыбытак!» — паведамляе нам* галоўны рэдактар. Сапраўды, разгорнем тэматычны план выдавецтва на бягучы, 1987 год. 79 працэнтаў тыражоў «Юнацтва» выпускае рускай мовай, сярэдні тыраж беларускамоўнай дзіцячай кнігі значна меншы, чым кнігі рускамоўнай. Можа, у выдавецтве ёсць цяжкасці з рэалізацыяй беларускамоўнай кнігі? Але ж мы ведаем пераканаўчыя прыклады імгненнага *знікнення з паліц кнігарань* 100-тысячнага тыражу беларускага «Рабінзона Круза», 90-тысячнага «Маўглі», цудоўных кніжак-біяграфій «Галілей», «Ганібал», «Жанна д'Арк» і інш. Што ж прапануе «Юнацтва» сёння? Агульны тыраж кніг Героя Савецкага Саюза, лётчыка-касманаўта СССР У. Кавалёнка «Радзіма мне крылы дала», зборніка беларускіх народных казак і аповесці лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Г. Траяпольскага «Белы Бім Чорнае вуха», меншы, чым адной кніжкі І. Бурсава «Сорок сорок»! Апошні раз па-беларуску раман Роні Старэйшага «Змаганне за агонь» выйшаў у 1929 годзе, не перавыдаваўся з 1932 г. беларускі выклад «Прыгодаў удалага ваякі Швейка», сотні класічных твораў яшчэ чакаюць перакладу. Што ж «Юнацтва»? Яно збіраецца друкаваць Роні Старэйшага па-руску...

Мы разумеем, што заказаць новы пераклад ці адрэдагаваць стары — гэта выдаткі. Заказаць арыгінальныя ілюстрацыі нашым цудоўным мастакам — таксама выдаткі. Замест таго, каб працаваць на няўдзячнай ніве стварэння новай кнігі, рэдактару лягчэй гнаць адно за адным чарговае перавыданне добра адрэдагаванага раней літаратурнага бестселера. Тут табе і лісты-адбіткі і, у рыфму сказаўшы, прыбыткі.

На маю думку, тыражная палітыка нашых выдавецтваў *даўно вымагае больш* разумнага планавання. Дастаткова, напрыклад, сказаць, што «Мастацкая літаратура» прапануе чытачу сёлета аднолькавым тыражом (і лістажом) санеты Шэкспіра і свой тэматычны план.

А ці спрыяе такая выдавецкая палітыка паляпшэнню сітуацыі з беларускай мовай у школе і па-за школай? Хацелася б пачуць думку і іншых выдавецкіх супрацоўнікаў: што робіцца канкрэтна для карэннай перабудовы кнігавыдавецкай справы? Бо гутарка ў нас — аб культуры.

**М. НІКАЛАЕЎ,**
**супрацоўнік Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына.**
г. Ленінград.

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ




Купалаўскія Акопы... Пра гэтую мясціну мы ведаем са школьнай парты. Вось што гаворыцца пра іх у энцыклапедычным персанальным даведніку «Янка Купала»: «Акопы былі для Купалы такімі, як Міхайлаўскае для А. Пушкіна, Тарханы для М. Лермантава, Карабіха для М. Някрасава, Ясная Паляна для Л. Талстога, Навагрудак для А. Міцкевіча, Мікалаеўшчына для Я. Коласа. Акопы былі для паэта невычэрпнай крыніцай натхнення, шматлікіх тэм і настрояў, непасрэднай натурай паэтычных малюнкаў і іх шматфарбнага каларыту, а таксама шырокім полем пазнання народнага жыцця, сацыяльных канфліктаў, народных характараў».

Назву Акопы трэба разумець у шырокім значэнні. То вялікі абшар акопаўскіх ваколіц: вёсак, фальваркаў, а таксама комплекс краявідаў, урочышчаў. Увесь гэты абшар яшчэ называюць Лысагоршчынай (Лысагоршчына—радзіма Купалы).

Нельга сказаць, што мала зроблена для ўвекавечання памяці народнага песняра. Тут можна прыгадаць Літаратурны музей паэта ў Мінску, мемарыяльныя запаведнікі ў Вязынцы і Ляўках, шматлікія знакі ў розных мясцінах Беларусі і па-за яе межамі. Аднак родны кут Купалы да гэтага часу застаецца мала даследаваны, менш вядомы, чым Вязынка і Ляўкі. Увесь матэрыял *пра Акопы* і Селішча раскіданы па часопісах і газетах, не сабраны ў адным выданні з адпаведнымі ілюстрацыямі. З Лысагоршчынай Купала быў параднёны на працягу 33 гадоў (1895—1929), а з Вязынкай—адзін год (1882—1883), з Ляўкамі—шэсць (1935—1941).

Занядбанне Акопаў пачалося ў канцы 20-х гадоў, калі іх пакінуў швагер Купалы Юльян Феліксавіч Раманоўскі. Юльян пераехаў на новае месца жыхарства, у калгас «Маяк сацыялізму», што пад Барысавам. У хуткім часе Акопаўская сядзіба перайшла ў калгасную маёмасць, але захоўваць будынкі было нязручна, бо яны знаходзіліся ў значнай аддегласці ад паселішч і ніхто там не хацеў жыць. Потым пабудовы хутара разбурылі, будаўнічы матэрыял скарысталі для розных гаспадарчых ужыткаў. Акопы сталі... раскіданым гняздом.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны, калі мемарыяльная камісія па ўвекавечанні памяці Купалы рабіла агледзіны важнейшых паэтавых мясцін—Акопаў, Вязынкі, Ляўкоў і іншых, то з усіх іх без вялікіх выдаткаў лягчэй было аднавіць Вязынку і Ляўкі, бо там захаваліся будынкі, а ў Акопах быў толькі падмурак ад дома.

Пра Акопы яшчэ раз успомнілі пад час падрыхтоўкі да святкавання стагоддзя з дня нараджэння народнага паэта. Тады ж прымацавалі мемарыяльны знак на валуне, на якім любіў калісьці адпачываць паэт. Зараз помнік занядбаны, бо ніхто пра яго не апякуецца.

Усялякія нягоды, віхуры часу вынішчылі шмат што на нашай зямлі. Цяпер да цудоўных Акопаў не толькі не дабрацца на машыне, але і пехам цяжка іх адшукаць, бо навокал узбуялі лясы, хмызнякі, пазарасталі сцежкі-дарожкі, па якіх вандраваў паэт. Ад усіх былых паселішчаў цяпер толькі захаваліся найбольш даступныя, пры добрых дарогах Вялікія Бясяды і Янушкавічы. Думаецца, варта было б знайсці ўстановы ці арганізацыі, на якія б ляглі абавязкі падтрымання і захавання ўсіх прыродных помнікаў, звязаных з вытокамі творчасці паэта. Трэба распрацаваць маршрут агледзін Лысагоршчыны, упарадкаваць на тым шляху дарогі, каб можна было праехаць на транспарце. Маршрут мог бы быць такі: Мінск—Бяларучы—В. Бясяды—Селішча—Дзяніскі — Карпілаўка (сядзіба пісьменніка Ядвігіна Ш.)—Акопы—М. Бясяды. А адтуль па Даўгінаўскім тракце — вяртанне ў Мінск.

Аднаўляць будынкі на былых сядзібах (Акопы, Селішча), мабыць, не патрэбна, лепей на тых мясцінах пабудаваць альтанкі з мемарыяльнымі знакамі, упарадкаваць вакол іх пляцоўкі. Па купалаўскім маршруце паставіць, як гэта робяць літоўцы, разьбярскія постаці вобразаў з твораў пісьменніка. Гэта быў бы літаратурны музей Янкі Купалы пад адкрытым небам.

**Ф. ГІНТАЎТ.**
г. Гродна.

ВІНШУЕМ

# Валянціне ШЧАДРЫНОЙ—60



28 мая споўнілася 60 гадоў перакладчыцы Валянціне Шчадрыной. Праўленне СП БССР накіравала ёй прывітальны адрас, у якім гаворыцца:

**«Дарагая Валянціна Ніканараўна!**

**Сардэчна віншуем Вас, вядомую перакладчыцу і прапагандыста беларускай літаратуры, з 60-годдзем з дня нараджэння.**

**Ваш працоўны і творчы шлях цесна звязаны з Беларуссю, з беларускай літаратурай. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна і аспірантуры пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР Вы працавалі рэдактарам у выдавецтве «Народная асвета». У 1953 годзе Вы пераехалі ў Маскву, дзе выкладалі мову і літаратуру ў сярэдняй школе, былі літаратурным рэдактарам Дзяржаўнага медыцынскага выдавецтва, загадвалі літаратурным аддзелам «Медицинской газеты». У 1968—1986 гг. Вы працавалі ў апараце праўлення Саюза пісьменнікаў СССР кансультантам па беларускай літаратуры. Вы актыўна і зацікаўлена прапагандавалі беларускую літаратуру, садзейнічалі перакладу лепшых твораў на мовы братніх рэспублік і замежных краін, аказвалі практычную дапамогу СП БССР у ажыццяўленні шырокага кола арганізацыйна-творчых і выхаваўчых мерапрыемстваў.**

**Мы ведаем Вас як высокакваліфікаванага перакладчыка твораў беларускай літаратуры на рускую мову. На Вашым творчым рахунку пераклады кніг і асобных твораў В. Быкава, У. Караткевіча, І. Чыгрынава, А. Кудраўца, А. Асіпенкі, І. Пташнікава, А. Васілевіч, Л. Арабей, Л. Гаўрылкіна і іншых пісьменнікаў.**

**За плённую работу ў мастацкім перакладзе і актыўную прапаганду беларускай савецкай літаратуры Вам прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка культуры Беларускай ССР.**

**Шчыра жадаем Вам, дарагая Валянціна Ніканараўна, новых творчых здзяйсненняў на ніве братэрства літаратур».**

Супрацоўнікі «ЛіМа» далучаюцца да гэтага віншавання.

# ВЕЧАР ПЕСНІ

**Адразу чатыры песенныя прэм'еры адбыліся на гэтым вечары. Ён быў прысвечаны творчасці народнага артыста БССР Ігара Лучанка і лаўрэата Усесаюзнага конкурсу кампазітара Уладзіміра Прохарава. Вечар, арганізаваны Саюзам кампазітараў БССР і мінскім Домам афіцэраў, прайшоў пад рубрыкай «Мастацтва — арміі і народу».**

**Песні прагучалі ў выкананні народнага артыста рэспублікі В. Вуячыча, заслужаных артыстаў БССР Т. Раеўскай, І. Краснадубскага, трыо Палаца культуры МТЗ, а таксама Т. Арлоўскай, В. Стральчэні, У. Праваліхскага, народнага ансамбля песні і танца «Пралескі» рэспубліканскага Палаца піянераў і школьнікаў, Сімфанічнага аркестра Дзяржтэлерадыё БССР (кіраўнік заслужаны артыст рэспублікі Б. Райскі). У вечары ўдзельнічаў аўтар песенных тэкстаў А. Лягчылаў, які прачытаў свае вершы.**

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

# НАТХНЁНАЯ СКРЫПКА

**Камерная зала філармоніі... Цудоўная архітэктура старажытнага будынка, своеасаблівы інтэр'ер утульнай залы, выдатная акустыка,—усё гэта спрыяе ўспрыняццю музыкі. Не дзіўна, што амаль усе канцэрты ў зале на Залатой Горцы праходзяць з аншлагам.**

**Нядаўна тут з поспехам выступіў саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі, лаўрэат першай прэміі Міжнароднага конкурсу імя Н. Паганіні Аляксандр Крамароў. Амаль дваццаць гадоў прадстаўляе ён беларускае выканальніцкае мастацтва ў канцэртных залах нашай краіны і за мяжой. Асабліва падкрэслю асветніцкую дзейнасць скрыпача ў нас у рэспубліцы. Здаецца, няма такога горада ці пасёлка, дзе б не гучала скрыпка Аляксандра Крамарова.**

**Мастацтва музыканта ў апошнія гады набыло значную глыбіню, выразнасць. А яго віртуозныя якасці, здаецца, дасягнулі той вышыні, калі не заўважаюцца ніякія тэхнічныя цяжкасці, калі ўсё выконваецца, як кажуць,—гуляючы. Асабліва хочацца адзначыць высакароднасць інтанацыі, густу, тонкае адчуванне стылю. Слухаць майстра—сапраўднае свята, для прафесіяналаў жа гэта яшчэ і выдатная школа.**

**Новая праграма, з якой выступіў на гэты раз А. Крамароў,—не часта з'яўляецца на афішах скрыпічных канцэртаў. Яна ўключае творы надзвычай складаныя. Думаю, асаблівых тлумачэнняў не спатрэбіцца, калі назаву кампазітара: гучала музыка знакамітага італьянца Нікало Паганіні. Мы пачулі пластычнасць і напеўнасць санат для скрыпкі і гітары (гітарыст Уладзімір Белышаў), лёгкасць і арганічнасць у надзвычай віртуозных п'есах «Малінара» і «Венецыянскі карнавал».**

**Неймаверныя расцяжкі пальцаў, скачкі, разнастайныя двайныя ноты, піцыката, ігра на адной струне,—усе гэтыя выключна складаныя тэхнічныя прыёмы ігры на скрыпцы (першаадкрывальнікам якіх і быў Паганіні) скарыстоўваліся А. Крамаровым без відочных намаганняў і былі падпарадкаваны мастацкім задумам. Мы, слухачы, апынуліся ва ўладзе ўзнёслага музіцыравання, якое і прынесла ўсім прысутным сапраўдную эстэтычную асалоду.**

**А. СЦЕПАНЦОЎ.**

# У ПЛАНЕ ПАРАЎНАЛЬНАГА ВЫВУЧЭННЯ

**Даўнія традыцыі маюць сувязі беларускай літаратуры з заходнееўрапейскімі і, у першую чаргу, з нямецкай літаратурай. Першай спробай канкрэтнага аналізу станаўлення іх стала кніга У. Сакалоўскага «Пара станаўлення», выпушчаная выдавецтвам «Навука і тэхніка». Падзагаловак яе—«Вопыт параўнальнага вывучэння беларускай і некаторых класічных зарубежных літаратур» — вызначае кола пытанняў, якія трапілі ў поле зроку даследчыка.**

**Матэрыялы, сабраныя аўтарам, ахопліваюць перыяд з канца XIX да першай палавіны XX ст., а калі канкрэтней—ад першых публікацый, зместам сваім звязаных з беларускай літаратурай, на старонках славістычнага часопіса «Архів фюр славішэ філалагі» («Архіў славянскай філалогіі») да пачатку другой сусветнай вайны. Дарэчы, першы раздзел «Ад славістычных артыкулаў да першых перакладаў» і пабудаваны на аснове звестак, пачэрпнутых з друку канца мінулага стагоддзя.**

**Наступныя раздзелы «Беларуская літаратура ў Германіі» і «Нямецкая і аўстрыйская літаратура ў Беларусі» сведчаць, што ўзаемасувязі асабліва пашырыліся ў дваццатыя гады, калі ўвогуле набылі размах культурныя кантакты беларускага народа, дзякуючы выхаду Беларускай ССР на міжнародную арэну. Гэта тычыцца і сувязей з іншымі заходнееўрапейскімі літаратурамі — «Скандынаўскія літаратуры ў Беларусі».**

**Адметнасць выдання ў тым, што ў ім разглядаюцца не толькі кантактныя сувязі, але і тыпалагічныя, найперш на прыкладзе творчасці М. Чарота і І. Бехера. Як сведчыць У. Сакалоўскі ў раздзеле «Тыпалагічная агульнасць і нацыянальная адметнасць», «літаратурная спадчына Чарота і Бехера 20-х—пачатку 30-х гадоў у плане раскрыцця ў ёй тэмы рэвалюцыі, сцвярджэння сацыялістычнага ідэалу і станаўлення новага героя выяўляе значнае падабенства тэматыкі і ідэйна-эстэтычных пазіцый пісьменнікаў у іх творчай эвалюцыі да сацыялістычнага рэалізму».**

**С. ЛАТУШКА.**

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ**



## *Урок гісторыі*

Жыццё—ганчар?
А я?
Кавалак гліны?..
Ганчарны круг
імклівыя гады
імкліва круціць.
Кайстра успамінаў
цяжэе.
Ужо ці малады?
Пражытых летаў пальцы адчуваю,
а час імчыць,
і не стрымаць яго.
Брыду,
іду,
бягу бягом,
спазняюся,
не паспяваю...

Жыццё — ганчар!
Бясспрэчна,
зразумела,
калі ты на ганчарным крузе дня
ляжыш кавалкам гліны толькі для
таго, каб гадаваць
сляпое цела.

«Жыццё — ганчар...»
Сам напісаў
і сам жа,
пакрыўджаны,
у роспачы знямеў.
Што маю сёння?
Што я ўчора меў?
Няўжо імклівасць дзён і змен,
блакіт снягоў
і эНТэ-ЭРЫ сажу
жыццё-ганчар
шпурляе ў грудзі мне?
Відаць, што не!

Я сам іду з касою ў касавіцу.
Я сам брыду
у завіруху снежня...
І раптам стала мне, прабачце, смешна:
жыццё маю штурхае калясніцу?!.—
такое можа раз у век прысніцца...
І ўбачыў я сябе на ўсходзе сонца.
А ці не я —
яшчэ не чалавек
і ўжо не звер
(прынамсі, як сцвярджаецца цяпер)
у рукі палку ўзяў,
і ў галаве
застаўся кволай думкі
кволы след...
Я жыў ледзь-ледзь.
Я выжываў ледзь-ледзь.
Не звер, як звер,
я піў сырую кроў...

За крокам першым
быў наступны крок —
аднойчы з долу
я сабраў каменне
і падсвядома прывалок у племя.

Я прыручыў,
я перайначыў камень,
і ажыла, загаварыла памяць,
і ажыло, загаварыла слова.
І я узняўся над сям'ёй звяроў.
Я чалавекам стаў,
хоць піў сырую кроў...
Наступны крок,
наступны ўрок—
агонь.
Я прыручыў яго!
. . . . . . . .
Я прыручыў агонь.
Я збудаваў сябе.
Сваё жыццё,
свой дом,
сваю планету
я перайначыў, рупны, у сяўбе!
Жыццё — ганчар?
Паверу хіба ў гэта
пад сінім небам,
ці пад змрокам хмар?
Не!
Не жыццё,
а я жыцця — ганчар!

●

Нейтральнасць...
Нейтральная паласа,
ты мела на фронце права,
а сёння ж —
маёва квітнее сад,
і множацца мірныя справы.

А ты не вузееш, нейтральная, не!
Пад небам высокім,
мірным,
хоць белы цябе засцілае снег,
нейтральная, —
поле міннае.

Тады,
на вайне,
было два берагі—
траншэі, драты калючыя...
Растуць гарбатыя нейтральберлагі
і сонца пабольш канючаць.

Нейтральнасць...
Маўчанка і тут,
і там.
Хай круціць,
як хоча,
крывая...
Хто там,
наіўны,
у шале атак
сілы свае надрывае?

Нейтральнасць моліцца:
толькі б не я...
Толькі б мяне не кранулі...
Джала хавае ад сонца змяя,
колеру хакі кашуля.

Ўтульненька,
цёпленька.
Не закрані!
Затхла?
Затое спакойненька.
Балота высмоктвае карані?
Хай сабе.
Грэй, падваконнічак.

Вокны зашклёныя.
Добра відаць.
Глядзі і пасапвай у дзірачкі.
Нейтральнасць умее з-за шкла віжаваць
і сёрбаць пляткарства зацірачку.

Эх, камнем бы ў багну,
ці кіем якім,
каб аж скаланула, забулькала...
А за нейтральнай —
дастань! — мацакі
спакойна капаюць бульбачку.

Паўнеюць кашы
у капальшчыкаў спрэс,
а бульба прагрэсам параненая...
Калі ж нейтральную ўздыбіць стрэс?
Калі
ўскалыхнецца
нейтральная?

## *Ганчакі*

Узмах рукі,
і пена — у бакі,
і бляск смяротны
у вачах шалёных.
Здавён у ганчакоў
закон такі:
узмах рукі —
і зноў яны у гоне.

Чым кормяць вас,
скажыце, ганчакі?
Адкуль адданасці сабачай столькі?
Гон скончыцца,
і вы, як жабракі,
аблізваеце ўпалыя бакі,
і косткамі здаюцца вам двухстволкі.

Ды зноў узмах,
і лапы не дрыжаць.
Скачок,
другі...
Ахвяра хто?
Няважна!..
І вось ідзе
крывавы баль нажа —
гаспадары здабычу дзеляць важна.

А вам з таго
ці ёсць кусман які,
ці хоць кавалак,
ці драбок — з удачы?
Работа зроблена,
і зноў вальер сабачы
пакорліва прымаюць ганчакі —
закон такі...

Закон такі
не пісаны,
ды ўсё ж
ён існуе,
не пісаны,
уяўна:
не іржавее паляўнічы нож
у паляўнічых
ад здабычы п'яных —
са зграяй віславухіх ганчакоў,
прылізаных,
прылашчаных,
прыгрэтых,
услаўленых ужо
і не апетых,
з павадкамі піліпаўскіх ваўкоў.

## ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ

ВЯСНА была цёплаю і сухою. І гэта прыемнае надвор'е май перадаваў чэрвеню. Шырокія паплавы паміж дзвюма вёскамі, якія падзяляла рэчка пад назваю Крывая, неяк адразу і вельмі дружна ўспыхнулі ўсімі колерамі красак, а старыя ліпы, галіны якіх спляліся над вуліцаю, водарам сваіх кветак запрашалі хоць тых пчол, што яшчэ ацалелі ад хімізацыі. На нейкае імгненне здалося, што з чэрвеня 1941-га тут нічога не змянілася, хоць прайшлі дзесяцігоддзі і сам я не той хлапчук, што гойсаў некалі пад гэтымі ліпамі з аднагодкамі, а госць уласнай вёскі і ўзрост мой блізкі да перадпенсійнага.

Вёскі мелі адну назву. І калі нехта з адной накіроўваўся праз рэчку ў другую, то звычайна казаў: пайду на той бок. І цяпер з таго боку на гэты, дзе на самым узгорку стаяла мураваная крама, з нейчай лёгкай рукі і вострага языка прозваная «манапολькаю», наўпрасцяк праз луг з «таго боку» на гэты ішлі людзі, у асноўным старыя жанчыны і дзеці. Ішлі нетаропка, і гэта быў першы прызнак таго, што ў краме нічога такога не выкінулі і нічога такога яшчэ не даюць. Людзі міналі краму і знікалі за дзвярыма хаты, што стаяла побач. Там былі хаўтуры—так у нашых мясцінах спрадвеку называюць пахаванне нябожчыка.

Труна была закрыта векам, бо тое, што засталося ад чалавека, было б жахліва паказваць людзям. Аднасельцы стаялі моўчкі, цесна абступіўшы труну. Тыя, хто не ўмесціўся ў хаце, прыпыніліся ў сенцах. На тварах дарослых была хаўтурная самотнасць, на дзіцячых тварыках цікаўнасць, на тварах некалькіх юнакоў, што збіліся ля печы, збянтэжанасць і разгубленасць. Абхапіўшы галаву рукамі, маці нябожчыка то білася ёю аб белыя, чыста выгабляваныя дошкі труны і жудасна галасіла, то надоўга заціхала. Мяне не здзівіла, што яе ніхто не суцяшае і не супакойвае. Здаўна ведаў, што на вёсцы гэта не робіцца. Там скарэй скажуць: дайце чалавеку выплакацца, слязою сысці, а пасля ўжо можна і суцешыць. І яна галасіла, лілася бярозаю. У галавах труны сядзеў скамянелы бацька. На худым, пачарнелым, не голеным твары немагчыма было што-небудзь прачытаць. Здавалася, што чалавек сваю знешнасць, сваю абалонку пакінуў, а сам, увесь, некуды выйшаў і не вяртаецца. Нават падумалася недарэчнае, што гэта менавіта ён, бацька, з труны вылез, векам яе, пустую, прыкрыў, а сам сябе пасадзіў побач, каб супакоіць аднавяскоўцаў і жонку, што ён тут, нікуды не ўцёк, і калі скажуць яму лезці ў труну зноў, палезе, пярэчыць не стане, бо яму, памерламу, цяпер ужо ўсё роўна.

Сын,—а гэта ён ляжаў у закрытай труне,—было адзінае і найвялікшае шчасце, чым узнагародзіла суровае жыццё бацьку-паліцая, што цудам уцалеў ад вайны, выжыў пасля яе, да гэтых часоў дажыў, каб цяпер праз сваю даўнюю віну пахаваць ні ў чым не вінаватае дзіця.

Мне не давялося бачыць сына былога паліцая, але самога паліцая я ведаў з дзяцінства—калі яму было васемнаццаць, мне пайшоў ужо адзінаццаты. Ды і хата наша стаяла на тым самым месцы, дзе стаіць цяпер «манаполька». Словам, былі суседзямі. І паліцэйства таго, хто сядзеў зараз ля труны сына, было ў мяне на віду, як было яно на віду ва ўсёй вёскі, на віду ва ўсіх гэтых бабулек, што прыйшлі сёння на хаўтуры, бо памёр не проста чалавек, а малады чалавек, юнак, хлапчук, можна сказаць.

Не цяжка было ўявіць, што варочалася сёння пад нешырокім ілбом усохлай, бугрыстай з плешавінаю галавы бацькі ля труны ўчора яшчэ здаровага, прыгожага, здольнага да вучобы сына, які не схацеў заставацца ў гэтым свеце і знёс з сабою на той свет усё, што меў і што мог мець.

Следства даволі хутка і без асаблівых цяжкасцей устанавіла непасрэдную прычыну трагедыі. Некалькі аднагодкаў сённяшняга нябожчыка два дні назад скончылі дзесяць класаў і, калі ішлі на выпускны вечар, прыхапілі ў той «манапольцы» паўлітэрку, а можа, і болей. Выпіўшы зелле пасля афіцыйнай часткі вечара і ўручэння атэстатаў сталасці, адзін з іх, захмялеўшы больш за іншых, стаў чапляцца да сённяшняга нябожчыка і абазваў яго «паліцаем». «Паліцай» сцярпеў абразу, як цярпеў яе неаднойчы. Праўда, у апошнія гады, калі хлапчукі пасталелі, то стараліся не напамінаць свайму аднагодку самае страшнае і непрыемнае для яго. А

## ПЕРАКЛАДЫ

Як надзённа гучаць сягоння вершы нашага земляка выдатнага рускага паэта Дзмітрыя Кавалёва! Паэт, якога ўжо няма сярод нас, жыве і ў нашым часе, часе ачышчэння і праўды, часе вырашэння набалелых праблем.
Прапаную свае пераклады вершаў Д. Кавалёва.

Мікола ЯНЧАНКА.

**Дзмітрый КАВАЛЁЎ**

●

Былой
Вучонасць наша —
Не раўня.
Сягоння ёсць,
Чаму і дзе вучыцца.
І мара —
Ява заўтрашняга дня.
І хлеб надзённы
Не надзённы быццам.
Ад крайнасцей
Мы меней церпім бед.
Сёй-той цяпер у лішках,
Як у ванне...
Не ўсім напамінае партбілет,
Што ён дзядам суліў
Сібір і катаванні.
Мы моцныя не толькі навіной,
Мы моцныя з мінулым днём яднаннем.
Не закусіла б слава цуглі зноў.
І не зацьміла б нас
Уласным ззяннем...
Трывожна і няўтульна на душы.
Куды, скажыце, коціцца планета?
Ці ладна ў доме ў нас,
Таварышы?..
Адказныя,
У адказе вы за гэта?..
Аголенымі нервамі ўначы,
Калі ніяк заснуць мне не ўдаецца,
Трапечуць,
Б'юцца,
Рвуцца,
Кумачы —
І стук іх адгукаецца у сэрцы.

## *Кліч зямлі*

Іду і адчуваю водар хлебны
Зямлі, якая песціцца ў цяпле.
Як маладыя той зямлі патрэбны,
А маладых нягуста на сяле.
Нягуста іх такіх,
Каб ганарыліся
Узятай у паноў зямлёй сваёй.
Не там, дзе кроў твая,
А дзе згадзіліся.
Вядома ж, вы і там патрэбны ёй.
Ды як жа гэта — што зусім звычайна:
Не свой жалгас мы любім гарачэй.
Паабжылі далёкія ускраіны,
А чарназём пад бокам адзічэў.
Яшчэ чаму нас поле веснавое
Не кліча так, нібы труба ў паход,
Так, як чароды кранаў над вадою,
Як караблі сусвету і завод.
Вядома, ў тым вялікая ўжо страта,
Калі не кліча стэп яшчэ з зімы.
Вядома, час у гэтым вінаваты,
Ды ўсё-ткі болей
Вінаваты мы.
Калісь зямлёй
Палохалі мы дзетак,
Не прывучалі
Да служэння ёй.
І ўсё ніяк не прымірыцца з гэтым
Ні сэрцу,
Ні свядомасці маёй.

●

Прачынаюся, штосьці не спіцца,
Бы скубуць за бакі мяне крабы...
Нехта на дапамогу кліча,
Ды не чуюць моцныя слабых.
Хто я? Моцны? Ці слабы? Не знаю.
Часам здасца, што зрушу горы.
Ну а часам — і сілы маю—
Не магу, толькі паліць горыч.
Падхалімы сумленнага з'елі,
Хоць бярыце ў сведкі сляпога.
Гуртам — ведаюць як — населі,
І патрэбна яму дапамога.
Ды прыходзіць подлая дума:
Аднаму, а не ўсім дапаможаш.
І не надта хочацца шуму —
Сам адзін аказацца можаш.
Углядаюцца вочы таварыша,
Разумеючы і з дакорам,
Не гадамі сваімі старыя,
А адказам маім, адгаворам.
І на вочы кругі зялёныя
Наплываюць — дваяцца, траяцца.
Твары, воблікі заімглёныя,
Быццам злыя пчолы раяцца.

## *Прырода*

Леаніду ЛЯВОНАВУ

Прырода перад намі пала ніцма
І з абаронцамі
Ёй не абараніцца.
Як быццам бы
Не мерана,
Не лічана.
І што з таго,
Што самі ёю лічымся?
Сябе да паляванняў прымушаем.
Саміх сябе —
Сякераю па корані.
Бы вораг нам яна —
Перамагаем
І пакараем,
Скінуўшы пакорлівасць.
Плануем непазбежную патраву,
І за патраву —
Штраф бяром па праву...
Не падлічылі і не зразумелі,
Як за уронам
Паспяваць прыплоду?
З чым толькі не ідзем мы на прыроду,
Не гоячы пякучых ран на целе...
Яна з яе узлескамі,
З разлівам звонкім,
Што гуляе лесам,
Стварыла некалі
Людзей з мазгамі
Насуперак
Сваім жа інтарэсам.

тут атрымалася і нечакана і пад п'яную руку.

К канцу вечара юнак нібы і забыўся на тую абразу, а калі на ўзыходзе сонца ішлі дамоў па чыгунцы, нечакана, моўчкі на вачах і крыўдзіцеля і астатніх лёг упоперак рэек перад самымі коламі цягніка. Так што машыніст не паспеў ні спыніцца, ні прытармазіць...

Галасіла, выла, білася маці. Здранцвела сядзеў бацька. А думкі яго, відаць, прадзіраліся зараз праз тыя падзеі, што выпалі на яго долю па дурноце бацькоў, якія даўно памерлі ўжо, а ён нібы ў дадатковую кару дажыў да таго, каб пахаваць сына, а самому застацца на новы тэрмін новых пакут. Бадай што думка яго зачапілася за

жонка аднаго з іх, якая вярнулася з Заходняй Беларусі не толькі бежанкаю, але і кандыдатам у члены партыі бальшавікоў, пра што стараста не ведаў, а то жыць бы ёй яшчэ карацей, чым яна пражыла, звязалася з людзьмі, што былі пакінуты ў падполлі, і тыя параілі ісці хлопцам у паліцыю...

І адзелі камсамольцаў ва уніформу, далі вінтоўкі без патронаў, далучылі да іх некалькі галаварэзаў з былых вязняў, вызваленых фашыстамі з турмы, камандзірамі прыставілі немцаў. І пачаў гэты атрад шастаць па вёсках. Галаварэзы разам з немцамі арыштоўвалі людзей, рабавалі, п'янствавалі, а камсамольцы пракліналі той дзень і час, калі далі згоду стаць паліцэйскімі. А фашысты і іх памагатыя не ха-

ці, і яна расказвала, як той слізняком поўзаў па зямлі, енчыў, галасіў, прасіў літасці, хоць у Мішкі і не было намеру расстрэльваць яго. У Мішкі была мара... раздабыць кулямёт. Мара была, ды не так яе лёгка было здзейсніць. І цяпер Мішка рашыў адпусціць Куртуто жывым пры ўмове, што той украдзе ў немцаў кулямёт і прынясе туды, куды ён, Мішка, скажа. «А не прынясеш,— сказаў Мішка, —у другі раз злаўлю і тады ўжо... Сагну дзве бярозы, прывяжу за ногі і адпушчу. Раздзяруць яны цябе, як жабу». І адпусціў Куртуто жывым, даўшы пад зад добрага выспятка. А праз нейкі час той прынёс кулямёт ды яшчэ з патронамі і пакінуў у тым месцы, якое прызначыў Мішка.

Алесь **ПЕТРАШКЕВІЧ**



# АДГАЛОСКІ



ЭСЭ

1941-ы і адразу ж пераскочыла на 1944-ы. А потым на 1954-ы—год вызвалення з турмы, у якой яму давялося адсядзець роўна столькі, колькі заслужыў за сваё паліцайства. А потым вяртанне ў родныя мясціны, жаніцьба на неблагой, хоць і не маладой ужо жанчыне і, нарэшце, нараджэнне сына. І нібы не было таго паліцайства, і нібы не было той турмы, нібы не было той вайны...

...А яна была!.. Немцы нахлынулі ў вёску раптоўна. І першае, што зрабілі, расстралялі старшыню сельсавета. І зрабілі гэта так нечакана, так звычайна і проста, што людзі, бадай, і не зразумелі, не ўсвядомілі, што ж гэта адбылося, як жа гэта разумець. Паставілі чалавека да ямы, з якой людзі гліну бралі, засакатаў аўтамат, нібы той бусел дзюбаю, і... няма чалавека. Тут жа, далёка не адыходзячы ад ямы, у якой астываў чалавек, прапанавалі вёсцы ў старасты дзеда сённяшняга нябожчыка—чалавека маўклівага, нелюдзімага і зацятага яшчэ з часоў стварэння калгаса, які абагуліў не толькі яго надзелы і некалькі кароў, але і жарабка лепшага на ўсёй акрузе. Праўда, той жа калгас і ўратаваў падкулачніка ад высылкі, хоць не пра тое яму думалася пасля прыходу немцаў.

З першых жа дзён супрацоўніцтва камендант упадабаў старасту, які паспеў ужо скласці і перадаць яму тры спісы: у першым пералічыў камсамольцаў, у другім—параненых акружэнцаў, што прыбіліся да вёскі, а ў трэцім—сваіх мужчын-аднавяскоўцаў, якія не паспелі атрымаць ад ваенкамата абмундзіраванне і зброю, былі перахоплены акружэннем пад Оршай і цяпер папрыходзілі да сваіх сем'яў.

Камсамольцы былі ўзяты пад канвой і дастаўлены ў камендатуру, дзе ім быў прапанаваны выбар: ці пайсці ў мясцовую паліцыю, ці запісацца ў «народнікі», як называлі тады вайсковыя фарміраванні, якія фашысты хацелі стварыць з ваеннапалонных і мясцовых жыхароў, ці паехаць на работы ў Нямеччыну, ці... на шыбеніцу за сваё камсамольства перад хатамі бацькоў.

Пакуль хлопцы адседжваліся ў сутарэннях былога магазіна, «пушніны», і думалі, як абхітрыць немцаў, каб і прапаноў іх не прыняць і павешанымі не быць, тыя акружылі вёску, пабралі і параненых акружэнцаў і вясковых мужчын, аб'явіўшы іх ваеннапалоннымі.

Тым часам, пакуль хлопцы сядзелі ў «пушніне» (так у вайну звалі і да гэтага часу завуць тыя скляпенні),

валі таго, што яны не толькі дыскрэдытуюць камсамольцаў перад насельніцтвам, але і выпацкаюць іх у крыві, каб ніхто з іх ужо не змог адступіцца ад «свайго рашэння» паслужыць вялікай Германіі. А калі хто адступіцца, то ўсёй радні смерць.

Прыціхла вёска, заталі дыханне людзі, не ведалі, што рабіць і куды кінуцца маткі тых камсамольцаў, якім было наканавана не па сваёй волі стаць здраднікамі.

А старасціха як ашалела. Усе хлопцы з вінтоўкамі, з павязкамі, у чорных шынялях з блакітнымі адваротамі, а яе сын—не! Да іншых звяртаюцца толькі «пан паліцай», а яе сына па старому мянушкай клічуць. Ды якой! Куртуто! Чаму менавіта Куртуто, і да гэтага часу ніхто не ведае. Куртуто ды Куртуто.

Што ні рабіла дурная баба, а немцы не бяруць у паліцыю, бо ні віду, ні выгляду ў неданоска. Лоб вузенькі, сам маленькі, ногі дугою, вушы тырчком. Ганьба нават для паліцыі. Толькі не такой была старасціха, каб адступіць. Зафундзіла каменданту з паўпуда мёду, занесла начальніку паліцыі кумпячок, тыдні два паіла бургамістра. І запісалі Куртуто ў паліцыю на злую пацеху вёсцы. Запісаць запісалі, а стрэльбы не выдалі, а тыя, што сам знаходзіў,—адбіралі. Скончылася тым, што прыставілі яго да коней, вадавозам зрабілі, мыць, прыбіраць казарму прымусілі. Словам, ні камандаваць сваімі, ні рабаваць разам з немцамі Куртуто не свяціла. А тут яшчэ падвялі яго, бедалагу, і хлопцы-аднавяскоўцы: казарму з п'янымі здраднікамі і немцамі гранатамі закідалі, зброю забралі і да партызан падаліся. Сувязной паміж партыйным падполлем і камсамольцамі гэта каштавала жыцця—расстралялі яе немцы, як жонку партызана. Родзічам астатніх удалося ўратавацца. Стараста ж з-за гэтай падзеі згубіў пасаду, якая так па душы прыйшлася і яму і яго жонцы. Тым не менш, Куртуто служыў у паліцыі. Ездзіў разам з карнікамі на аперацыі, разам з імі паліў вёскі, рабаваў, здзекаваўся. Ды аднойчы трапіў у палон... да свайго суседа Максімавага Мішкі. Са слоў Мішкі, яго маці Максіміха, расказвала пра гэта яшчэ ў сорак чацвёртым, калі вярнулася з сямейнага партызанскага лагера, дзе з дачкою і ўнукам ратавалася ад наканаванай смерці за партызанства сына. Відаць, агіда, з якой Мішка расказваў маці пра сваю сустрэчу з былым суседам-паліцаем, перадалася ма-

Прыпомніўшы гэты расказ, я глянуў на Максіміху. Вельмі пастарэлая, худзенькая, але стройная, наколькі гэта можна сказаць пра васьмідзесяцігадовую, яна стаяла цяпер каля труны, у якой ляжаў сын таго самага паліцая Куртуто. Твар яе быў спакойны і суровы. Вачэй не было відаць за тоўстымі шкельцамі акуляраў у просценькай металічнай аправе. Слязінку, што выкацілася з-пад шкельца і распаўзлася па баразёнках маршчын, яна неўзаметку зняла ражком чорнай хусцінкі і, адчуўшы позірк, глянула ў мой бок. І мне падумалася, што на чужых хаўтурах яна перажывае і сваю бяду, церпіць боль сваёй раны, што не зажывае, не зацягваецца ўжо больш за сорак гадоў і не зацягнецца да скону, да апошняй дошкі.

Справа ў тым, што ў хуткім часе пасля той сустрэчы з Куртуто яе сын Мішка трапіў у засаду, і, паранены, быў схоплены фашыстамі. Трымалі яго ў скляпеннях усё той жа «пушніны»—месца жудаснага і крывавага. Невыпадкова паблізу ад яго каля шашы Масква—Мінск пахавана больш за пяцьсот чалавек, што прайшлі праз тую «пушніну». Пад сціплым помнікам—і партызаны, і падпольшчыкі, і жанчыны, і старыя, і дзеці. Побач з узгоркам брацкай магілы да гэтага часу зеўраюць пашчамі дзве глыбокія ямы. Фашысцкія каты не паспелі запоўніць іх новымі ахвярамі.

І трэба было так здарыцца, што к часу палонення Мішкі Куртуто пайшоў на павышэнне і служыў цяпер наглядчыкам у «пушніне». Дакладней, не столькі наглядчыкам, колькі прыбіральшчыкам—кожную раніцу выносіў парашы, сціраў са сцен пасмяротныя надпісы, зробленыя крывёю ці надрапаныя цвіком, выносіў тых, хто паміраў за ноч ад катаванняў.

Кар'еру Куртуто зрабіў нечакана. У жнівеньскую ноч сорак трэцяга года, калі ўсе партызанскія злучэнні і фарміраванні выйшлі, каб разбурыць чыгункі пад час Курскай бітвы, адзін з партызанаў быў паранены, страціў прытомнасць і ачомаўся толькі пад раніцу, калі і бой заціх, і сябры-партызаны адышлі ў лясы. І параненаму нічога іншага не заставалася, як дапаўзці да капы сена, што аказалася паблізу, і схавацца ў ёй хоць бы да ночы. А змогшыся, партызан заснуў. На соннага яго і наваліліся былы стараста з сынам-паліцаем. Абяззброілі, звязалі, у камендатуру здалі. У той жа дзень на мундзір Куртуто камендант прычапіў «медальку», а партызана жандары прывязалі да аглоблі фурманкі і пагналі ў раённы гарнізон, у «пушніну»—раз бізуном па каню, а другі—па чалавеку. І так вёрст дзесяць. Пакуль мог чалавек бегчы—бег, а як упаў, дык ужо і не падняўся. Беспрытомнага ў «пушніну» завалаклі, а раніцай мёртвага вынеслі.

Пра гэты «подзвіг» Куртуто ведала ўсё ваколле. А пра смерць партызана Мішка расказаў сваёй маці, а яна ўжо вяскоўцам. У сорак трэцім Куртуто хадзіў яшчэ не толькі з медалём, але і з той вінтоўкай-дзесяцізарадкай, якую адабраў у сваёй ахвяры. Мішку ён убачыў у той момант, калі прыйшоў, каб вынесці памерлага партызана з «пушніны». Сказаць, што здраднік узрадаваўся сустрэчы—не скажаш, хутчэй—спалохаўся. Якраз гэта Мішка і скарыстаў.

— Я дапамагу вынесці партызана...

— Не старайся, сусед, бо калі я цябе апазнаю, мне — другі медаль, а табе—крышка.

— Разам з табою крышка, калі раскажу немцам пра кулямёт,—адказаў Мішка.

Куртуто аслупянеў, доўга глядзеў на субяседніка і нарэшце выціснуў:

— Не такія дурныя немцы, каб табе паверыць. А я ў іх зараз чалавек свой,— і ён падсунуў пальцы пад медаль, што хітаўся на зялёнай стужачцы.

— І ўсё ж я дапамагу вынесці партызана!—настойліва патрабаваў Мішка.—На вуліцы і дагаворым...

Куртуто больш не пярэчыў. У наступныя дні ён у камеру не заходзіў, а калі і паказваўся, то на гаворку не даваўся і перад іншымі вязнямі рабіў выгляд, што Мішку не ведае. А Мішка губляўся ў здагадках пра тое, што задумаў Куртуто.

Усё стала зразумела толькі пасля таго, як наглядчык перастаў насіць яму ежу, адабраў вопратку і чаравікі, ды яшчэ і запёр у асобны цёмны закутак скляпення—нешта накшталт карцэра.

І не выжыць бы Мішку у тым карцэры, калі б не шчаслівы для яго выпадак. «Пушніну» наведаў нейкі начальнік з немцаў. Ён ледзьве не захлынуўся ад злосці і смуроду, які ўдарыў яму ў нос. І сапраўды, смурод стаяў невыносны, бо ніякай аддушыны тут не было, а парашу даўно ніхто не выносіў. Не прыбіраліся і тыя лужыны крыві, якою падплывалі людзі пасля допытаў. Куртуто схапіў ад начальніка добрую аплявуху, а калі той выйшаў, ён, як апантаны, закрычаў на Мішку:

— Вынось парашу, сволач!

Мішка выйшаў з «пушніны» пад канвоем Куртуто, глынуў свежага паветра і адразу ж ап'янеў. Закружылася галава, і ён прыпыніўся.

— Шнэль, тваю маць!—гаўкнуў Куртуто і падштурхнуў Мішку ствалом дзесяцізарадкі.

Рашэнне партызан прыняў імгненна. Убачыўшы побач з «пушнінаю» даволі густыя кусты і тое, што паблізу нікога няма, ён нечакана адзеў парашу з усім яе скарбам на галаву паліцэйскаму, абяззброіў яго і сам ірвануў у кусты.

Куртуто ашалеў ад злосці, бездапаможнасці і страху перад начальствам. Працёршы вочы, ён у такім прыгожым выглядзе і прыбег у камендатуру, лямантуючы пра партызана, якога трэба лавіць. Атрымаўшы ад каменданта ботам пад азадак, Куртуто аказаўся на вуліцы. А праз нейкі час яму быў адведзены той самы карцэр, у якім нядаўна сядзеў Мішка.

У 1945-м былога паліцыянта-наглядчыка нашы салдаты вызвалілі з нямецкага канцлагера недзе ў Польшчы і як «ахвяру фашысцкага тэрору» запісалі ў сваю вайсковую часць. Трэба думаць, што пра парашу і Мішку-партызана ён ім не расказваў.

А Мішкі к гэтаму часу ўжо не было на свеце. У час апошняй блакады напярэдадні вызвалення нашай зямлі ён з двума сябрамі быў адрэзаны ад сваіх і акружаны фашыстамі. Біліся хлопцы, пакуль былі патроны, а потым, параненыя ўжо і пакалечаныя, перапаўзлі ў пуню, што аказалася побач, завалілі знутры вароты, падпалілі салому і згарэлі жывымі. Пра гэта мне таксама расказала Максіміха. Яна бачыла тое выгарышча...

...Прыйшоў час выносіць нябожчыка. Труну паднялі двое старэйшых мужчын і чацвёра юнакоў, што былі сведкамі гібелі пятага. Разам з усімі, хто быў на хаўтурах, побач з Максіміхай, я дайшоў да могілак. Па дарозе і туды і назад старэнькая маўчала. Толькі пры развітанні і вымавіла: «Во якія адгалоскі,—і, памаўчаўшы, дадала,—бедны хлопчык...»

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# ДОЙЛІД ПРАЦУЕ НА ВЯКІ

*У. Чантурыя. Помнікі архітэктуры і горадабудаўніцтва Беларусі. На рускай мове. Мінск, «Полымя», 1986.*

Той, хто ніколі не вандраваў па гарадах і мястэчках Беларусі, прачытаўшы гэтую кнігу, нібы зробіць у сваім уяўленні такое падарожжа. Тэкст і фатаграфіі, планы і схемы памогуць яму жыва «ўбачыць» і старажытны замак у Міры, і не менш славуты Смалянскі замак, і хараство архітэктурнага ансамбля Нясвіжа. Кніга У. Чантурыі запрашае чытача далучыцца да архітэктурных каштоўнасцей мінулага і сучаснасці.

«Помнікі архітэктуры і горадабудаўніцтва Беларусі» —кніга, якую можна прапанаваць кожнаму госцю нашай рэспублікі. На шырокім гістарычным фоне аўтар аналізуе здабыткі старадаўніх і сучасных дойлідаў Беларусі. Ён на канкрэтных прыкладах паказвае чытачу, як беларускія майстры XVIII — пачатку XX стагоддзяў гарманічна «ўвязвалі» забудову з прыродным ці гістарычным асяроддзем.

Напрыклад, цэнтральны ансамбль Гомеля, які вылучаецца высокімі архітэктурна-мастацкімі вартасцямі, створаны свядомымі прыхільнікамі класіцызму. Вянцом горада быў і застаецца прыгожы парк над Сожам і палац з саборам, домам паляўнічага і царквой з капліцай. Манументальныя збудаванні арганічна і натуральна паўсталі там, дзе ім нібыта і належыць быць. Гартаючы кнігу У. Чантурыі, ты зноў і зноў аднаўляеш у памяці свае ўражанні: але, гомельскі «дыямент» горадабудаўніцтва заслугоўвае захаплення!

У кнізе шмат матэрыялу, які сведчыць, што беларускія будаўнікі творча ўспрымалі адкрыцці і дасягненні еўрапейскага ампіру, барока, готыкі і раманскага стылю.

Я добра ведаю мой родны Віцебск і наогул Віцебшчыну. Колькі натхнення чэрпалі мастакі розных школ і пакаленняў, працуючы «на пленэры» на высокім беразе сярод пошуму зеляніны парку! Аўтар кнігі «вядзе» нас на Віцебшчыну ад збудавання да збудавання, даючы магчымасць адчуць унікальныя вартасці кожнага з іх. Сапраўды, сучаснае дойлідства можа многаму навучыцца ў сваіх папярэднікаў. Перш-наперш уменню мысліць у маштабах гістарычнай традыцыі. Мабыць, кніга У. Чантурыі спрыяе гэтаму. Узоры, якія яна прапагандуе, павучальныя, карысныя, яркія.

Умела «вядзе» аўтар і своеасаблівы «агляд», напрыклад, маёнтка Жылічы на Магілёўшчыне. Тут быў некалі пабудаваны вялікі палацавы ансамбль з паркам, дзе знаходзіліся скульптуры і малыя архітэктурныя формы.

Надзвычай насычана гістарычнымі фактамі даведка пра гісторыю Гродна. Схема плана горада і здымкі помнікаў дойлідства, якімі ганарыцца Прынямонне, даюць чытачу ўяўленне пра мэтазгодную прыгажосць аднаго са старэйшых нашых гарадоў.

Затрымліваю ўвагу чытача толькі на асобных старонках кнігі прафесара У. Чантурыі. У ёй даецца вельмі шырокі агляд таго, што было, чым вылучалася, што захавалася, чым мы ганарымся. Фактычна размова ідзе пра культуру дойлідства на Беларусі.

І яшчэ адна якасць кнігі, пра якую варта сказаць: за вельмі сціслымі радкамі тэксту — гады засяроджанай працы аўтара. Таму ён так упэўнена аперыруе гістарычнымі, архіўнымі і археалагічнымі дадзенымі.

Мне здалося, што кніга выдадзена недастатковым тыражом. Наўрад ці яна будзе даступнай чытачам Расійскай Федэрацыі, Украіны і іншых рэспублік краіны. Мастацтва ж дойліда ўзбагачаецца ўзаемаўплывамі і кантактамі паміж майстрамі суседніх зямель. У тым выпадку, калі кніга будзе перавыдавацца, мяркую, варта больш падрабязна паказаць здабыткі ландшафтнай архітэктуры, дадаць і пашырыць тэкст пра інтэр'еры найбольш вядомых помнікаў. Добры ілюстрацыйны матэрыял можа выглядаць выразней, калі друкаваць здымкі большым фарматам (чаму б не даць асобныя фатаграфіі на ўсю старонку або нават на разварот?). Гэта пажаданне тлумачыцца яшчэ і тым, што «Помнікі архітэктуры і горадабудаўніцтва Беларусі» належаць да тых выданняў, якія з цягам часу набываюць значэнне вучэбнага даведніка.

Мабыць, не толькі я звярнуў увагу на цікавыя ракурсы некаторых фатаграфій, змешчаных у кнізе. Фатографы стараліся здымаць фрагменты ацалелых будынкаў, каб не вельмі кідаліся ў вочы сляды разбурэнняў. Абрысы ўжо адбудаванага Траецкага прадмесця ў Мінску сведчаць, што і ў нашай рэспубліцы ёсць энтузіясты адраджэння гістарычнай забудовы, ёсць старанныя рукі, здатныя ўзняць з руін былую красу дойлідства. Менавіта да такіх людзей і звернута кніга У. Чантурыі.

**Заір АЗГУР,**
**Герой Сацыялістычнай Працы,**
**народны мастак СССР.**

МАСТАК і ЖЫЦЦЁ

Працягваюцца гастролі Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа ў Мінску. Сталічны глядач ужо меў магчымасць пазнаёміцца з рэпертуарам гасцей з Віцебска, скласці пэўнае ўяўленне пра сённяшняе аблічча калектыву. Падвядзенне вынікаў творчай справаздачы коласаўцаў — наперадзе, але і цяпер зразумела, што жыве тэатр не проста, разам са сваімі традыцыйна прывабнымі рысамі дэманструе і нямала спрэчнага, далёка не заўсёды пераканаўчага...

На развагах акцёра-коласаўца народнага артыста БССР У. Куляшова, змешчаных на гэтай старонцы,—адбітак дабратворных перамен, якімі жыве сёння наша краіна.

**Уладзімір КУЛЯШОЎ,**
**народны артыст БССР**

# СПРАВЯДЛІВАСЦЬ, ДАБРЫНЯ, ПРЫГАЖОСЦЬ

**Час няўмольны. Ён дыктуе нам свае законы, вызначае сэнс і сутнасць тых цікавых зрухаў, з'яў, працэсаў, што адбываюцца цяпер.**

**Партыя чуйна адчула вострую неабходнасць перамен, перабудовы. Сама ідэя арганізацыйна-творчага эксперыменту, у якім вось ужо амаль паўгода ўдзельнічае і наш Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, узнікла таму, што на зломе часу выявіліся хранічныя недахопы і пралікі ў тэатральнай гаспадарцы. Каб зрушыць справу наперад, выйсці на новую якасць, трэба ўважліва прааналізаваць прычыны недахопаў і страт, знайсці спосабы іх пераадолення, выпрацаваць дакладную і выразную праграму дзеянняў, бо працаваць па-старому — нельга. У наша жыццё і сродкамі мастацтва павінны быць укаранёны справядлівасць, дабрыня, прыгажосць. Усведамляючы важнасць гэтых маральных катэгорый, мы, тэатральныя дзеячы, абавязаны скарыстаць увесь свой патэнцыял назапашанай энергіі.**

**Што ж замінае ці можа замінаць нам крочыць наперад? На што мы павінны арыентавацца, калі гаварыць пра якасны рывок? Думкі, якімі хочацца падзяліцца, — натуральна, не бясспрэчныя, але гэта мой пункт гледжання, вынік назіранняў і разваг.**

**У тэатры, як, напэўна, нідзе больш, важны прынцып, закладзены ў аснову паняцця «чалавечы фактар». Чалавек-акцёр, яго душэўныя і інтэлектуальныя намаганні, нервовая структура з'яўляюцца «сыравінай» для выпуску нашага «канчатковага прадукта» — спектакля. І спецыфіка тэатральнай справы такая, што галоўным маральным крытэрыем тут з'яўляецца прафесійнае сумленне. Менавіта яно ўплывае на стварэнне ў калектыве здаровага маральна-псіхалагічнага клімату. Чэснасць, прыстойнасць, дабрыня, давер і аб'ектыўнасць павінны вызначаць дзейнасць мастацка-кіруючага і адміністрацыйнага звенняў. Практыку валявых рашэнняў, звязаных, як правіла, з асабістымі сімпатыямі і антыпатыямі, трэба раз і назаўсёды зжыць. Няпроста існуе сёння тэатр, наспела шмат праблем. З іх я вылучыў бы тры самыя важныя: рэжысура, рэпертуарная палітыка, камплектаванне трупы. Паўстаюць яны не паасобку, сплятаюцца ў адмысловы вузел. Ад таго, як хутка здолеем мы яго разблытаць, залежыць поспех нашай справы.**

**Працуючы з акцёрскім цэхам, галоўны рэжысёр мае справу з матэрыялам адметным, які складаецца з розных індывідуальнасцей, не ў роўнай ступені адораных і не заўсёды цвяроза ацэньваючых свае магчымасці, — але з матэрыялам крохкім, крыўдлівым, ранімым, часам нават капрызлівым. І тут вырашальным фактарам творчага росту калектыву робяцца не толькі арганізатарскія здольнасці галоўнага, але і ягоны дар быць мудрым настаўнікам, ягонае веданне становішча ў калектыве, дыпламатычнае ўменне прыняць адзіна правільнае рашэнне ў любой, самай складанай сітуацыі. Так, цяжка паяднаць мноства акцёрскіх індывідуальнасцей, тым не менш,— з максімальнай шчырасцю і зацікаўленасцю галоўнаму рэжысёру важна ўмець так ставіцца да кожнага акцёра, каб ён адчуваў, што за ягонай творчасцю сочаць, што ў ягоным лёсе зацікаўлены, што ён патрэбны тэатру. Удзячная аддача з боку акцёра абавязкова будзе, ад гэтага выйграюць усе: і рэжысёр, і акцёр, і тэатр, а ўрэшце — глядач.**

**Нам трэба не па-манілаўску марыць пра ідэальную мадэль тэатра, а, улічваючы сённяшні стан і магчымасці трупы, прыкласці максімум намаганняў, скіраваных на яго паляпшэнне, арыентуючы гледача на адпаведнае ўспрыманне сучасных працэсаў і з'яў.**

**Я — акцёр і, натуральна, абараняю інтарэсы сваіх калег па прафесіі. Няхай даруюць мне рэжысёры, якіх у нас мала, якіх так песцяць, апякаюць, зберагаюць ад самага маленькага ветрыку... Акцёру — што! Ён працаўнік, двужыльны, усё стрывае. Існуе рэальная небяспека ператварэння рэжысёрскага корпуса ў нейкую снабісцкую эліту, «клан недатыкальных». Пры амаль «прыгоннай» залежнасці акцёра ад нас патрабуюць дысцыплінаванасці — гранічнай, аддачы — гранічнай, сабранасці і ўвагі — гранічнай, уяўлення — ледзь не на мяжы вар'яцтва, імправізацыі — феерычнай і г. д. Ці не маем права і мы прад'явіць да рэжысёра такія самыя патрабаванні, толькі яшчэ і на ўзроўні АСОБЫ? Калі акцёр верыць у рэжысёра як у АСОБУ, ТВОРЦУ — чаму не ўзнікае ніякіх непаразуменняў? У такім выпадку мэта апраўдвае сродкі: акцёр не скардзіцца, не плача, церпіць часам нават рэзкія заўвагі, разумеючы, што яны справядлівыя, — ярасна пераадольвае перашкоды дзеля канчатковага выніку, да якога яны з рэжысёрам-павадыром ідуць... На гэтым шляху можна, вядома, зведаць горыч правалу, а можна сягнуць да вяршынь, — і залежыць гэта ад маштабу асобы рэжысёра.**

**У апошнія гады на творчы стан коласаўскай трупы негатыўна ўплывае хранічная недаўкамплектаванасць рэжысёрскага звяна прафесійна падрыхтаванымі кадрамі. Расце незадаволенасць у акцёрскім асяроддзі. Шэрасць і будзённасць рэпетыцыйнага працэсу, якая ідзе часцей за ўсё ад рэжысёрскай бездапаможнасці, безумоўна, ніяк не спрыяе росту прафесійнага майстэрства акцёраў. Недаравальнае транжырства дарагога тэатральнага часу! Мяркую, невыпадкова на Устаноўчым з'ездзе Саюза тэатральных дзеячаў рэспублікі рэзка прагучала крытыка ў адрас тэатральна-мастацкага інстытута за недастатковую падрыхтоўку цікавых, моцных, неардынарных рэжысёраў, здольных вырашаць самыя складаныя творчыя задачы на высокім ідэйна-мастацкім узроўні. Такіх рэжысёраў трэба ўмець і жадаць знаходзіць, і запрашаць на пастаноўкі. Карацей, нам — рэжысёрам і акцёрам — надзвычай важна вярнуць, адрадзіць узаемны давер, грунтуючыся на вышэйшых прынцыпах служэння мастацтву і справядлівасці, каб можна было з поўным правам, не пакрывіўшы душою, сказаць, што, сапраўды, «наш союз неразделим и вечен».**

**Асобна хочацца спыніцца на дзейнасці мастацкага савета тэатра, яго функцыянальнай значнасці, яго ўплыву на ўсе сферы жыцця тэатра. Тое, што ён упершыню абраны і ў далейшым будзе абірацца штогод тайным галасаваннем, — адзін з сімптомаў, які абнадзейвае. У практыку тэатральнай справы ўкараняецца дэмакратычны крытэрый. У выніку выбрання тайным галасаваннем склад мастацкага савета атрымлівае з боку акцёрскай трупы як бы «вотум даверу», аўтарытэт яго адпаведна ўзрастае, і ў гэтым бачацца невычэрпныя рэзервы яго магчымасцей! Узрастае і адказнасць мастацкага савета перад творчым калектывам за свае ацэнкі і рашэнні. Бо ён павінен аб'ектыўна і непрадузята даваць якасную ацэнку акцёрскім работам, уважліва сачыць за занятасцю акцёраў, рашаць «далікатныя» пытанні матэрыяльнага заахвочвання, памеры якога, натуральна, будуць шчыльна звязаны з ідэйна-мастацкім узроўнем спектакляў.**

**Адной з важнейшых умоў у ажыццяўленні якаснага зруху з'яўляецца правільная рэпертуарная палітыка. Сёння тэатру прадастаўлена самастойнасць у выбары драматургічнага матэрыялу. Аднак і тут выяўляюцца свае цяжкасці. Магчымасць паўнакроўнага і якаснага выбару абмежавана, аказваецца, дзвюма прычынамі. Першая — адсутнасць дастаткова цікавай высокамастацкай драматургіі, асабліва — сучаснай тэматыкі. Другая прычына — цяперашні якасны стан акцёрскай трупы, яе недаўкамплектаванасць па амплуа. Раней коласаўскі тэатр ганарыўся сузор'ем... суквеццем яркіх і нават надзвычай яркіх творчых індывідуальнасцей, якія, безумоўна, вызначалі адметнасць і непаўторнасць яго творчага аблічча: А. Ільінскі, П. Малчанаў, С. Станюта, Ц. Сяргейчык, А. Радзялоўская, Я. Глебаўская, М. Звездачотаў, А. Шэлег, І. Матусевіч, А. Трус, М. Бялінская... Ці здолеем мы на новым вітку часу выйсці на ўзровень іх майстэрства, з гонарам прадоўжыць лепшыя традыцыі слаўнага тэатра? Не хачу быць песімістам, — здолеем, але толькі пры адной умове: калі мы будзем штодня культываваць у сабе любоў, трапяткое стаўленне да таямніц тэатральнага мастацтва, жыць на сцэне і ствараць мастацкія вобразы на мяжы эмацыянальнага і інтэлектуальнага напружання, страсна, калі хочаце — ярасна штурмаваць вяршыні акцёрскага майстэрства, заглыбляючыся пры гэтым у сакрэты сваёй цяжкай і складанай прафесіі.**

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# ДНІ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ Ў ВЛАЦЛАВЕЦКІМ ВАЯВОДСТВЕ

**Дзесяць год звязвае шчырая дружба працоўных Магілёўшчыны і Влацлавецкага ваяводства ПНР. Сябры сустракаюцца, абменьваюцца вопытам, культурнымі набыткамі. Вось і нядаўна ў Влацлавецкім ваяводстве прайшлі Дні культуры Магілёўшчыны.**

**У чытальнай зале горада Радзеева была разгорнута кніжная выстаўка, якая адлюстроўвала творчасць пісьменнікаў Магілёўшчыны. Яе адкрыў намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкома Я. Касцюковіч. Сакратар абласнога аддзялення СП БССР І. Аношкін, загадчыца аддзела дзіцячай абласной бібліятэкі імя А. Гайдара Л. Адамава расказалі аб жыцці і творчасці пісьменнікаў Магілёўшчыны, уручылі польскім сябрам буклеты «Пісьменнікі Прыдняпроўя».**

**І. Аношкін і В. Хаўратовіч, адказны сакратар абласной арганізацыі таварыства кнігалюбаў А. Жалудко сустрэліся з мясцовымі пісьменнікамі і кнігалюбамі, выступілі ў тэхнікумах і школах, бібліятэках і клубах.**

**У Влацлавеку і ваяводстве былі разгорнуты выстаўкі народнай творчасці і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, фота, графікі і іншыя. Члены Магілёўскай дэлегацыі пабылі на заводах і фабрыках, у сельскіх кааператывах, музеях, абмяняліся вопытам культурна-асветніцкай работы. Перад насельніцтвам ваяводства выступілі народны ансамбль танца завода «Строммашына», народны хор народнай песні Клімавіцкага РДК, народны ансамбль народных інструментаў Шклоўскага РДК.**

**Перад заключным канцэртам, у якім прынялі ўдзел і польскія самадзейнікі, выступілі першы сакратар Влацлавецкага ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі К. Лучак і старшыня Магілёўскага аблвыканкома А. Яновіч, якія выказалі ўпэўненасць, што Дні Магілёўшчыны ў Влацлавецкім ваяводстве паслужаць далейшаму развіццю і ўмацаванню польска-савецкай дружбы.**

**А. НОВІК.**



# ГАРТАВАННЕ НОВАГА ЛАДУ

**Вялікі Кастрычнік у Беларусі і яго палітычныя ворагі**

25 КАСТРЫЧНІКА ў 10 гадзін раніцы быў абнародаваны напісаны Леніным заклік «Да грамадзян Расіі», у якім аб'яўлялася аб звяржэнні Часовага ўрада і пераходзе ўлады ў рукі Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта — органа Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

У Мінску Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў узяў уладу ў свае рукі ў той жа дзень — 25 кастрычніка. Вечарам з гарадской турмы было вызвалена больш за 1000 палітычных зняволеных салдат, з якіх сфарміраваўся Першы рэвалюцыйны імя Мінскага Савета полк. Савет узброіў таксама 400 рабочых-чыгуначнікаў. На бок Савета перайшлі дыслацыраваныя ў Мінску 37-ы і 289-ы запасны пяхотныя палкі. Гэтыя тры палкі і рабочая дружына ў першыя дні складалі ўзброеныя сілы рэвалюцыйнай улады ў Мінску.

Мінскі Савет прыняў дзейсныя меры па ўстанаўленні рэвалюцыйнага парадку ў горадзе: увёў рэвалюцыйную цэнзуру, адхіліў ад кіраўніцтва гаспадаркай і культурай Гарадскую думу, накіраваў камісараў Савета на вакзал, пошту, тэлеграф, штаб Заходняга фронту, узяў пад ахову важнейшыя ўстановы горада. Па ініцыятыве Выканкома Савета 26 кастрычніка пачаў фарміравацца Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту. Да яго сфарміравання кіраўніцтва рэвалюцыйнымі пераўтварэннямі ажыццяўляў Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Правыя эсэра-меншавіцкія лідэры спрабавалі разграміць Мінскі Савет, заклікалі да фізічнай расправы над бальшавікамі. Аднак палітычная абстаноўка ў Мінску складвалася на карысць бальшавікоў. 30 кастрычніка пасля ўпартай барацьбы гарадскі сход праўленняў і камітэтаў прафсаюзаў прыняў рашэнне аб падтрымцы пралетарыятам Мінска Савецкай улады і аб гатоўнасці аказаць рашучае супрацьдзеянне ўсялякім спробам падаўлення Саветаў з чыйго б там ні было боку. Усю ўладу ўзяў у горадзе Ваенна-рэвалюцыйны камітэт. 1 лістапада 1917 г. А. Ф. Мяснікоў дакладваў У. І. Леніну аб завяршэнні рэвалюцыйнага перавароту ў Мінску.

Вышэйшым органам Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта з'яўляўся Пленум ВРК, а выканаўча-распарадчым — бюро і галіновыя аддзелы. У склад Бюро ВРК увайшлі: К. Ландэр (старшыня), А. Мяснікоў, У. Селязнёў, М. Рагазінскі, М. Калмановіч, М. Крывашэін, В. Фрэйман. Да сфарміравання абласных органаў Савецкай улады ВРК з'яўляўся адзіным поўнаўладным органам на неакупіраванай тэрыторыі Беларусі і Заходняга фронту.

Услед за Мінскам Савецкая ўлада ўстанаўлівалася ў іншых гарадах Беларусі і на Заходнім фронце.

У асвятленні буржуазных саветолагаў, усіх класавых праціўнікаў Кастрычніка Расія пасля Лютаўскай рэвалюцыі развівалася па дэмакратычным шляху, які нібыта парушыла Кастрычніцкая рэвалюцыя. Фальсіфікатары гісторыі адмаўляюць ролю бальшавіцкіх арганізацый у рэвалюцыйным руху на месцах. Кампартыю Беларусі яны паказваюць «нацыянальна чужой беларускаму народу» сілай, спрабуючы даказаць, што ў Беларусі, як і іншых нацыянальных раёнах краіны, бальшавіцкія арганізацыі не мелі каранёў «у нацыянальнай глебе» і нібыта шляхам насілля ўстанавілі тут «партыйную дыктатуру».

У хлуслівым святле паказвае нацыянальную палітыку КПСС прафесар Вісконсінскага універсітэта С. Горак. У кнізе «Беларусь: мадэрнізацыя, правы чалавека, нацыяналізм» ён піша, што беларусы як быццам падвергліся «дзвюм формам уціску: першая выцякала з ажыццяўлення марксісцкага вучэння ў інтэрпрэтацыі КПСС, а другая мела свае карані ў гістарычным рускім каланіяліцкім нацыяналізме, што праводзіцца рускімі бюракратамі». З хлуслівай пасылкі ён робіць хлуслівы вывад, што ўсё гэта прывяло да «канчатковай ліквідацыі беларускай нацыянальнай самабытнасці, да поўнай русіфікацыі і перманентнай саветызацыі краю».

Асвятляючы рэвалюцыйныя падзеі ў Беларусі ў 1917 г., французскі гісторык М. Феро робіць вывад, што тут рэвалюцыйны рух не меў «ні той сілы, ні той вызначанасці, як на Украіне, у Прыбалтыцы, ці ў Польшчы». Гэта ён тлумачыць слабасцю нацыяналістычных сіл у Беларусі.

«Навуковыя» ідэі антыкамуністам пастаўляюць шматлікія «рускія» інстытуты і даследчыя цэнтры, якія прытулілі буржуазных нацыяналістаў, выгнаных з Беларусі, Украіны, Прыбалтыкі і іншых рэспублік Савецкага Саюза. У сістэме гэтых устаноў фальсіфікатарскімі вымысламі займаюцца «навуковыя цэнтры» беларускай нацыяналістычнай эміграцыі — «Беларускі інстытут навукі і мастацтва» ў Нью-Йорку, «Беларускі інстытут навукі і мастацтва» ў Канадзе (БІНІМ), «Крывіцкае навуковае таварыства імя Францыска Скарыны» ў Лондане і інш.

Навуковая прадукцыя беларускіх буржуазных нацыяналістаў, якія працуюць у гэтых цэнтрах, вызначаецца грубай фальсіфікацыяй жыцця савецкага грамадства. Яны скажаюць марксісцка-ленінскае вучэнне аб пралетарскім інтэрнацыяналізме, навязваюць думку аб сіле буржуазнага нацыяналізму. Адмаўляючы добраахвотнасць аб'яднання савецкіх народаў, ілжыва паказваючы савецкі федэралізм і нацыянальную дзяржаўнасць, яны аб'яўляюць нацыяналізм рухаючай сілай прыгнечаных нацый, якая нібыта вызначае шляхі развіцця грамадства. Гэтыя фальсіфікацыйныя выдумкі прапагандуюць А. Адамовіч (Н. Недасек), В. Сядура (В. Глыбінны), П. Урбан, І. Любачка і інш.

Нацыянальная буржуазія усімі сродкамі спрабавала даказаць выпадковасць Кастрычніцкай рэвалюцыі, яе ідэолагі прадаўжалі абараняць ідэю буржуазна - дэмакратычнага шляху развіцця Беларусі, спасылаючыся пры гэтым на яе быццам традыцыйныя палітычныя, гаспадарчыя, культурныя і рэлігійныя сувязі з капіталістычным захадам. Буржуазны нацыяналіст Я. Лёсік хутка пасля перамогі Кастрычніка пісаў, што ў краіне для сацыялістычнай рэвалюцыі «не было ўмоў і людзі не дараслі». Прытрымліваючыся гэтай формулы, І. Любачка лічыць Беларусь адной з найбольш адсталых частак еўрапейскай Расіі ў пачатку XX ст. Яе прамысловая прадукцыя на душу насельніцтва складала каля паловы агульнарасійскага ўзроўню. 74 працэнты насельніцтва займалася сельскай гаспадаркай. Беззямелле і малазямелле вымушала сялян шукаць работу ў памешчыцкіх і кулацкіх гаспадарках. У Беларусі ў 1915 г. дзяржаве, царкве і памешчыкам належала 54 працэнты зямлі.

У еўрапейскай частцы Расіі Беларусь была раёнам, дзе быў самы высокі працэнт непісьменнасці. У 1897 г. непісьменныя складалі 71 працэнт, а ў 1905 г. — 63 працэнты насельніцтва.

З фактаў, запазычаных з савецкіх крыніц, І. Любачка робіць фальсіфікаваныя абагульненні і вывады. Ён, па-першае, разглядае Беларусь у адрыве ад Расіі ў цэлым, як самастойную краіну. Так робяць, дарэчы, усе фальсіфікатары. А ім жа вядома, што Беларусь была састаўной часткай Расіі, што эканоміка Беларусі была састаўной часткай агульнарасійскай эканомікі. Ён, па-другое, разглядае Кастрычніцкую рэвалюцыю ў Беларусі ў адрыве ад Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі ў цэлым. Агульнавядома, што Кастрычніцкая рэвалюцыя хутка распаўсюдзілася па ўсёй краіне, ахапіла ўсе раёны, у тым ліку і Беларусь, і развівалася з улікам канкрэтных мясцовых асаблівасцей.

Таму, калі мы гаворым аб эканамічных і культурных перадумовах Кастрычніцкай рэвалюцыі, то маем на ўвазе Расію ў цэлым, не адрываючы ад цэлага яе асобныя часткі.

Высокая ступень эксплуатацыі працоўных памешчыкамі і капіталістамі, беспрасветнае жыццё ў голадзе і галечы падымалі іх на барацьбу супраць існуючага ладу. Рабочы рух, што ўзнік у форме стыхійнага пратэсту, паступова развіваўся па ўзыходнай, у напрамку злучэння з рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыяй. У канцы XIX ст. у Беларусі пачалося распаўсюджанне марксісцкіх ідэй праз «гурткі самаадукацыі». Апошнія, па сцвярджэнні Любачкі, ствараліся «галоўным чынам яўрэямі ці католікамі», бо яны «пакутавалі ад моцнага прыгнёту, заснаванага на рэлігійнай дыскрымінацыі». На яго думку, марксісцкі сацыялістычны рух у Беларусі не меў адносін да беларускага нацыянальнага руху. Значыць, Любачка свядома ўзводзіць водападзел паміж працоўнымі па нацыянальнай ці рэлігійнай прыкмеце. Яўрэяў і палякаў ён адносіць да тых, хто з'яўляецца асяроддзем для распаўсюджання марксізму. Што датычыць беларусаў, то іх доляй ён лічыць нацыянальны рух. Такі погляд заснаваны на механічным падзеле шматнацыянальнага насельніцтва Беларусі на дзве групы: яўрэі і палякі ў сацыяльнай структуры грамадства з'яўляліся рабочымі, а беларусы — сялянамі. На самай жа справе яўрэі пераважалі ў асяроддзі саматужна-рамесных рабочых. Што датычыць фабрычна-заводскіх, чыгуначных рабочых, то ў гэтай групе пераважную большасць складалі рабочыя рускай, беларускай, украінскай нацыянальнасцей. На развіццё рабочага руху ў Беларусі аказвалі ўплыў рабочыя-беларусы буйных прадпрыемстваў Пецярбурга, Рыгі, Масквы, Кіева і іншых гарадоў. Гэтая акалічнасць абвяргае нацыяналістычнае сцвярджэнне Любачкі пра тое, што працоўную частку беларускай нацыі складалі нібыта толькі сяляне.

Бяздоказнае таксама яго меркаванне, быццам сацыяльнай базай беларускага нацыянальнага руху было сялянства. Бясспрэчна, што ў нацыянальным руху побач з сялянствам удзельнічалі інтэлігенцыя, дробная і сярэдняя гарадская буржуазія, кулацтва, рамеснікі, саматужнікі, навучэнцы. На самай справе ніякага водападзелу паміж рабочым і нацыянальна-вызваленчым рухамі не існавала.

У Беларусі па-за актыўным грамадска-палітычным жыццём апынуліся толькі буржуазна-памешчыцкія пласты нацыянальнага руху, для якіх Лютаўская рэвалюцыя была поўнай нечаканасцю. Амаль месяц яны збіралі свае раскіданыя па ўсёй Расіі сілы. З'езд «беларускіх нацыянальных дзеячаў», што адбыўся 25—26 сакавіка ў Мінску, быў не ў стане з рэальных пазіцый ацаніць новыя абставіны і выпрацаваць новую стратэгію і тактыку. Па меры набліжэння сацыялістычнай рэвалюцыі ў беларускім нацыянальным руху ўсё больш узмацняліся тэндэнцыі, якія прыводзілі яго да расколу. Увосень 1917 г. левая частка БСГ, прызнаўшы непазбежнасць сацыялістычнай рэвалюцыі, улілася ў склад рэвалюцыйных сіл, якія змагаліся на чале з пралетарыятам пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў за перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі. Правая частка, якая ўвабрала ў свае рады буржуазна-памешчыцкія вярхі, інтэлігенцыю, што ішла за імі, частку афіцэрства, сярэдніх і вышэйшых чыноўнікаў, забыўшы лозунгі нацыянальнай свабоды, аб'ядналася з контррэвалюцыйнымі сіламі Расіі і пад кіраўніцтвам кадэтаў уключылася ў барацьбу супраць рэвалюцыі.

Толькі партыя бальшавікоў, якая паслядоўна змагалася з ідэйнымі праціўнікамі, згуртоўвала рабочых, бяднейшых сялян, салдат, рыхтавала іх да апошняга штурму буржуазнага ладу. У Беларусі і на фронце толькі бальшавіцкія арганізацыі ў перыяд падрыхтоўкі сацыялістычнай рэвалюцыі выраслі колькасна, умацаваліся арганізацыйна. У радах стваранай адзінай абласной партыйнай арганізацыі да моманту рэвалюцыі было 28 500 членаў і 27 856 спачуваючых. Гэты факт не рашыўся адмаўляць нават такі зацяты фальсіфікатар, як Р. Пайпс.

Пайпс не аб'ектыўны, калі сцвярджае, што бальшавікі сваёй перамогай «абавязаны пераважна салдацкім галасам». У Мінскай, Віцебскай акругах за бальшавікоў галасавалі пераважна працоўныя сяляне, салдат там не было. Салдаты, як вядома, уваходзілі ў Заходнефрантавую выбарчую акругу.

Больш за палову выбаршчыкаў галасавалі за бальшавікоў. З партый, якія стаялі ў палітычных адносінах правей бальшавікоў, толькі эсэры здолелі набраць трэцюю частку галасоў. Усе іншыя партыі атрымалі нязначны працэнт, а БСГ не правяла ніводнага свайго кандыдата.

Паказваючы ў хлуслівым святле вынік Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі, Р. Пайпс сцвярджае, што звяржэнне бальшавікамі Часовага ўрада і распад «сацыялістычных» партый, якія падтрымлівалі яго, расчысцілі ў Беларусі поле для палітычнай дзейнасці дзвюм палітычным сілам: бальшавікам, што кантралявалі вялікую частку Заходняга фронту, і Беларускай радзе, што карысталася, на яго думку, пэўным уплывам сярод салдат беларускай нацыянальнасці і інтэлігенцыі.

Кастрычніцкую рэвалюцыю буржуазныя нацыяналісты сустрэлі варожа, называлі яе «віхрам без ладу». У той час, калі рабочыя, сялянская беднята, салдаты пад кіраўніцтвам бальшавікоў стварылі органы Савецкай улады, буржуазныя нацыяналісты 29 кастрычніка 1917 г. заклікалі беларускі народ да барацьбы супраць Саветаў.

Беларускі народ рашуча выступіў супраць ідэі адлучэння Беларусі ад Савецкай Расіі, за што змагаліся буржуазныя нацыяналісты. Сваё выратаванне ад пагрозы іншаземнага нашэсця ён бачыў «толькі ў баявым саюзе з Расіяй, з якой Беларусь злучана гістарычным мінулым і братняй блізкасцю. Вось чаму Беларусь,— гаварылася ў рэзалюцыі сходу беларусаў-воінаў Бабруйскага гарнізона,— павінна ўвайсці ў сям'ю народаў Савецкай Расіі».

Бачачы правал плана адкрытага выступлення супраць улады Саветаў і адлучэння Беларусі ад Савецкай Расіі, буржуазныя нацыяналісты паспрабавалі ашукаць народныя масы. З гэтай мэтай 30 лістапада 1917 г. Выканком Вялікай Беларускай рады ў газеце «Вольная Беларусь» апублікаваў паведамленне аб скліканні 5 снежня т. зв. Усебеларускага з'езда для стварэння «ўсімі прызнанай дэмакратычнай краявой улады, якая паможа вывесці беларускі народ на светлы шлях нацыянальнага развіцця». Лідэры буржуазных нацыяналістаў намерваліся ўтварыць Беларускую дэмакратычную рэспубліку ў складзе Віленскай, Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Гродзенскай, заходніх паветаў Смаленскай і паўночных Чарнігаўскай губерняў. Газета адкрыта заклікала да аддзялення Беларусі ад «безнадзейна хворага арганізму» Расіі.

На аснове буржуазна-нацыяналістычнай праграмы адлучэння Беларусі ад Расіі аб'ядналіся Беларуская рада, правыя эсэры, меншавікі, бундаўцы і нават кадэты, якія да Кастрычніцкай рэвалюцыі абаранялі пазіцыі «адзінай і непадзельнай» Расіі.

На скліканы нацыяналістамі т. зв. Усебеларускі з'езд прыбыло 1972 дэлегаты, у тым ліку 22 працэнты — ад афіцэраў, настаўнікаў, юрыстаў, журналістаў, вучоных, больш за 40 працэнтаў — ад розных арганізацый, створаных пры царскім і Часовым буржуазным урадах. У партыйных адносінах большасць дэлегатаў належала да рускіх і беларускіх эсэраў, БСГ. Кіраўніцтва буржуазных нацыяналістаў афіцыйна прызнала, што з 1167 дэлегатаў з правам рашаючага голасу ў склад «левай» фракцыі ўваходзіла толькі 118 дэлегатаў. Імі былі прадстаўнікі левай часткі БСГ, левыя эсэры і левыя меншавікі. Сапраўдны змест «левай» фракцыі быў выказаны ў выступленні аднаго з яе лідэраў І. Мамонькі. «Існуючую ўладу (Савецкую. — І. І.),—заявіў ён 14 снежня,— мы пакінуць не можам, бо яна не карыстаецца агульным даверам». Старшыня «левай» фракцыі Т. Грыб заклікаў членаў сваёй фракцыі да згоды з усімі фракцыямі з'езда. «У нас павінен быць,— гаварыў ён,— адзіны непадзельны сацыялістычны беларускі фронт».

Работа т. зв. Усебеларускага з'езда пачалася з прыняцця рэзалюцыі аб пераходзе ўсёй улады на тэрыторыі Беларусі. Буржуазна-нацыяналістычнае кіраўніцтва з'езда патрабавала аб'яўлення «Незалежнай Беларускай рэспублікі». У выніку вострай барацьбы, якая разгарэлася вакол гэтага пытання, з'езд раскалоўся на дзве часткі — нацыяналістычная ваеншчына і буржуазныя інтэлігенты патрабавалі «незалежнага» буржуазна-дэмакратычнага ладу; рабоча-сялянская частка з'езда адстойвала аўтаномію Беларусі ў складзе Савецкай Расіі. Прадстаўнік гэтай часткі з'езда А. Вазіла заявіў, што буржуазныя нацыяналісты не маюць нічога агуль-

нага з народам. Дамагаючыся «самастойнасці», яны хочуць «наш родны Беларускі край адарваць ад вялікага цела Расіі...». Звяртаючыся да дэлегатаў з'езда — сялян і рабочых, ён сказаў: «Вы гучна заявіце ўсяму свету, што Беларусь — не самастойная дзяржава, а непарыўная частка Вялікага Расійскага Саюза, раўнапраўны член у сям'і Расійскай Федэратыўнай Рэспублікі».

У інтарэсах Савецкай улады рашэннем СНК Заходняй вобласці і фронту ад 17 снежня 1917 г. з'езд быў распушчаны. Прэзідыуму з'езда было прапанавана пакінуць межы Беларусі. Нагодай да роспуску з'езда паслужыла парушэнне яго арганізатарамі пагаднення, заключанага Белабласткомам з Наркомнацам РСФСР і непрызнанне Савецкай улады, Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Буржуазныя нацыяналісты ў канчатковым выніку прызналі адсутнасць шырокай сацыяльнай базы для нацыяналістычнага руху ў Беларусі. У тэлеграме ад 18 студзеня 1918 г. Беларускаму абласному камітэту пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў І. Мамонька пісаў: «Дагэтуль ні Крыленка, ні Мяснікоў, ні Ленін, ні рэдакцыі газет не атрымалі матэрыялаў, якія б прымушалі іх штодня адчуваць, што ў Расіі, акрамя ўкраінцаў, вялікаросаў і інш., ёсць яшчэ і беларусы. Вось чаму Крыленка і Мяснікоў заявілі мне, што беларускага руху (нацыяналістычнага. — **І. І.**) не бачаць і не адчуваюць. Заява гэта... мае пад сабой грунт».

У кнізе А. Г. Чарвякова «За Савецкую Беларусь» (Мінск, 1927, с. 49) прыводзіцца выказванне старшыні ўрада БНР у 1918 г. пра тое, што т. зв. Усебеларускі з'езд ніколі не стаяў на пазіцыях Савецкай улады. Усю арганізацыю яго работы пранізваў тэндэнцыйны падыход. Партыйных фракцый на з'ездзе не было, іх замянілі зямляцтвамі па губернях. Усё было зроблена, каб перашкодзіць рабочым і сялянам стварыць сваю, класавую фракцыю. Вярхушка нацыяналістаў у арганізацыйным плане забяспечыла работу з'езда на аснове класавых інтарэсаў буржуазіі і памешчыкаў.

Са шматлікіх дакументаў вынікае, што беларускі народ не падтрымліваў буржуазных нацыяналістаў.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Савецкая ўлада за кароткі час ажыццявіла шэраг карэнных рэвалюцыйных пераўтварэнняў. Было падпісана пагадненне аб перамір'і на фронце. У асноўным сфарміраваліся абласныя, губернскія і павятовыя органы ўлады і кіраўніцтва. Праведзены шэраг мерапрыемстваў па падаўленні контррэвалюцыі, ліквідацыі органаў улады і кіраўніцтва буржуазіі і памешчыкаў. Пачалася нацыяналізацыя прамысловасці, банкаў, пераўтварэнне ў жыццё Дэкрэта аб зямлі.

Першыя крокі маладой Савецкай улады сустрэлі разуменне і падтрымку рабочых, працоўнага сялянства, дэмакратычнай інтэлігенцыі, салдат. У Савецкай уладзе яны бачылі тую ўладу, пра якую марылі многія гады. Натуральна, што народ узяў Савецкую ўладу пад сваю ахову, па закліку партыі бальшавікоў уключыўся ў барацьбу супраць скінутых, але недабітых эксплуататарскіх класаў, якія жорстка супраціўляліся сцвярджэнню новага ладу.

У жыцці беларускага народа, як і ўсіх народаў Савецкага Саюза, вырашальнае значэнне належыць Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Рыхтуючыся да яе сямідзесятай гадавіны, рабочыя, калгаснікі, народная інтэлігенцыя Савецкай Беларусі, аглядаючы пройдзены шлях, маюць важкія падставы ганарыцца дасягнутымі поспехамі.

**І. ІГНАЦЕНКА,**
**акадэмік АН БССР.**

## ПЕРАКЛАДЫ

*Як паведамлялася ў «ЛіМе», нядаўна нашу рэспубліку наведалі літаратары з Зялёнай Гуры (Польская Народная Рэспубліка): паэт і празаік, галоўны рэдактар штотыднёвіка «Над Одрай» Януш Конюш, паэт Генрык Шылкін і празаік Альфрэд Сятэцкі. Госці знаёміліся з гістарычнымі і культурнымі мясцінамі сталіцы рэспублікі, пабывалі на радзіме Адама Міцкевіча, мелі гутаркі ў Саюзе пісьменнікаў БССР і ў рэдакцыі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».*

*У час гутаркі ў «ЛіМе» абмяркоўваліся, у прыватнасці, пытанні творчага супрацоўніцтва паміж штотыднёвікамі «Над Одрай» і «Літаратура і мастацтва». Публікацыя твораў польскіх пісьменнікаў, якія мы змяшчаем сёння ў перакладзе на беларускую мову,—рэальная праява гэтага супрацоўніцтва. Дададзім адну заўвагу: паэт Генрык Шылкін родам з-пад Вільнюса, таму ў адным яго вершы і гучаць матывы любові да зямлі, дарагой і блізкай з маленства.*

**Януш КОНЮШ**

# НАРОДЖАНЫ Ў КАШУЛІ

Абавязкова сустрэньце іх. Вы — паэт, гэта пра мяне, яны — паэты, гэта пра іх, хутчэй знойдзеце агульную мову.

Выходзіць, мая схільнасць да запісвання слоў не толькі заўважана, але і знойдзены спосаб скарыстання яе.

Я купіў за кошт прадпрыемства кветкі — так мне параілі — і калі скоры міжнародны ўязджаў на першы пуць першага і адзінага на гэтай станцыі, з амбіцыямі яўна панадмясцовымі, перона, я ўжо бегаў тудысюды, размахваючы букетам з пятнаццаці белых і чырвоных гваздзікоў, перавязаных ружовай стужкай. Яны сапраўды адразу сарыентаваліся, што я — па іх. Сяргей Іванавіч, які выйшаў першым, моцна сціснуў маю, вільготную ад хвалявання, далонь. Гваздзікі я ўручыў Тамары Іванаўне. Удыхнуўшы іх саладкаваты водар, яна далікатна прытуліла кветкі да высокіх грудзей. І гэтым спантанным, але шчырым рухам спадабалася мне.

— Столькі кветак! Навошта аж столькі? — лагодна выгаворвала яна мне, пакуль мы ішлі ад перона да машыны, якая чакала нас перад станцыйным будынкам, што выглядаў досыць салідна. — Яны ж маглі яшчэ расці. А мне з імі зараз што... Палова, зрэшты, ваша, Сяргей Іванавіч.

— Не, усе для вас, Тамара Іванаўна.

— Ну хоць адну?

— Адну — можна. Вось гэтую, — згадзіўся Сяргей Іванавіч, бачачы разгубленасць Тамары Іванаўны. — Вось гэтую.

— І для вас таксама, Юра. Я правільна сказала — Юра, Юрка?

— Юра, Юрка, Ежы, Юрэк, — прадэкламаваў я адным духам, — як пані падабаецца.

І мы рушылі ў дарогу, патанаючы ў мяккіх сядзеннях машыны. Сяргей Іванавіч і я — ззаду. Тамара Іванаўна побач з вадзіцелем на пачэсным месцы.

— Ці расліны адчуваюць боль? — зноў пачала гаворку Тамара Іванаўна. — Яны ж рэагуюць на цяпло і холад, — павінны рэагаваць і на боль. Як вам, Юрка, здаецца?

— Я б хацеў, каб не рэагавалі. Нашто нам думаць, зрываючы кветку, што ёй баліць?

— А калі баліць? — не згаджалася Тамара Іванаўна.

— Боль — гэта прывілея чалавека.

— Прывілея? — здзівіўся я. — Я б не трымаўся за такія прывілеі.

— Боль — як агонь: не толькі пячэ, але і грэе, — ажывіўся Сяргей Іванавіч. — Якім было б наша жыццё без болю?

— Мы з солі, зямлі і таго, што баліць...

— Вось, вось, — згадзіўся Сяргей Іванавіч.

Тамара Іванаўна не зразумела і папрасіла паўтарыць.

— У нас ёсць такое прыслоўе.

— У нас — таксама, — заўважыў Сяргей Іванавіч.

— Таксама?

— Так, Юрка.

З засені дрэў мы выехалі на адкрытую, нагрэтую сонцам прастору.

— Вось дык спякота! — абазвалася Тамара Іванаўна. — У Маскве, учора ўдзень, калі мы ад'язджалі, таксама горача было, але не гэтак. Колькі той вады з чалавека за жыццё праз пот выйдзе. Возера, відаць, было б. — Тамара Іванаўна надушанай насоўкай сцерла пот з вялікага, трохі выпуклага лоба, які дамінаваў на яе непрыгожым, але вабным ад дабрыні твары. На яе сукенцы ў кветкі з'явіліся рэдкія, мокрыя плямкі. — Чалавек, гэта перш за ўсё — вада.

— Сцвярджаюць, што жыццё зарадзілася ў вадзе і адтуль выйшла на зямлю.

— Чалавеча, — амаль выкрыкнула Тамара Іванаўна, — ты ж з вады паўстаў, не з зямлі!

— Але ў прах ператворышся, — удакладніў я.

— Я б хацеў ператварыцца ў паперу.

— У паперу? — здзівілася Тамара Іванаўна.

— Так. У паперу, — паўтарыў Сяргей Іванавіч, — у свае кнігі. Каб ажываць кожны раз, калі нехта будзе браць іх у рукі.

— Гэта, Сяргей Іванавіч, — голас Тамары Іванаўны чамусьці набыў нізкія хрыплыя ноты, — прывілея тых, каму муза паклала на чало не адну, а абедзве рукі.

— Слухай, Юрка, колькі рук ты адчуваеш на сваім ілбе? Бо я — аж чатыры.

Усе зарагаталі. Гэты гучны, здаровы смех ад чагосьці вызваліў нас. І мы яшчэ раз прыязна глянулі адзін на аднаго.

— Эх, хлопцы, хлопцы! Мужчыны заўсёды — што дзеці... Ці далёка яшчэ?

—Да Одэра кіламетры са два, а адтуль ужо толькі дваццаць.

Цяпер Тамара Іванаўна яўна змагалася са сном, бо ён ужо ўзяў яе ў палон цалкам, таму што сон, авалодваючы чалавекам, пачынае са стоп і канчае вачыма. Яна ўсю ноч не спала. Толькі раніцай падрамала з гадзінку. Але мы ўжо ўз'язджалі на мост, і гэта яе асвяжыла.

— А гэта — помнік вашым танкістам. Калі яны пераправіліся на той бераг, немцы ўзарвалі мост і перакрылі ім шлях да адступлення.

— Стой, стой! — крыкнуў раптам Сяргей Іванавіч, ды так, быццам нешта выпала на дарогу праз адчыненае акно.

Вадзіцель тармазнуў і метраў сто ехаў заднім ходам, бо на дарозе, на наша шчасце, нікога больш не аказалася.

— Міжнародная траса, — тлумачу я, звяртаючыся больш да Тамары Іванаўны, яўна незадаволенай гэтым нечаканым спыненнем. — Адсюль да Берліна ўжо рукой падаць. У чатыры разы бліжэй, чым да Варшавы. Праз дзве гадзіны мы былі б ужо на месцы.

— Усяго праз дзве гадзіны? — Інфармацыя зацікавіла Тамару Іванаўну. Яна, відаць, лічыць за лепшае перамяшчацца ў часе, а не так, як Сяргей Іванавіч, — у прасторы. — Я б ніколі не падумала, што адсюль ужо так блізка.

Мы стаялі перад помнікам у форме калоны, увенчанай фігурай салдата ў касцы з зоркай. Надпіс на бетоннай пліце закрывалі кветкі, ускладзеныя, відавочна, нядаўна, бо яшчэ свежыя.

— Усе загінулі, — заўважыў я, — усе, каму адрэзалі шлях.

— Не ўсе.

— Як не ўсе? — здзівіўся я. — Усе, хто тады пераправіўся на гэты бераг. Тут так напісана.

— Я не загінуў.

— Вы? — спыталіся мы хорам, бо і шафёр быў побач, упадаючы быццам у бязважкасць, адчуваючы раптам, як адрываемся ад зямлі, пасля гэтак жа раптоўна і лёгка апускаемся.

— Вы? — мы глядзелі на Сяргея Іванавіча так, нібы перад намі стаяў нехта, хто толькі што вярнуўся з таго свету, быццам падарожжа туды аказалася ўсяго толькі палётам у космас.

— Вы? — Некалі мне здавалася, што прыйдзе час і я сустрэну каго-небудзь такога. Зараз я ўжо ведаю, што нічога такога не будзе, бо ўсё, што ёсць на свеце жывога, — жыве тут, побач з намі. Таму і разважанні пра прышэльцаў лічу марнатраўствам часу. — Вы?

— Тут недзе ёсць роў, — спакойна заўважыў Сяргей Іванавіч.

— Роў? Які роў?

— Роў, звычайны, супрацьпаводкавы. Ёсць рака, мост, дарога, значыцца, павінен быць і роў.

— Ёсць, сапраўды ёсць! — шафёр пракрычаў гэта так узрадавана, як быццам знайшоў нешта незвычайнае. — Ёсць роў!

За прыдарожным насыпам, нябачны ад шашы, цягнуўся роў.

— Сашу падбілі ўжо тут, вось тут недзе, — расказаў Сяргей Іванавіч голасам экскурсавода, які праводзіць незвычайную экскурсію. — На дне ляжаў снег. Паветра дыхала вясной. І раптам на гэтым снезе з'явіліся дзіўныя плямы. Чалавек, Тамара Іванаўна, гэта перш за ўсё кроў. Калі кроў выйдзе—жыццё выйдзе. А цяпер тут — трава.

Мы стаялі па калена ў высокай і густой зялёнай траве, таму што ў рове заўсёды вільготна. Сяргей Іванавіч прысеў і ўдыхнуў яе пах так глыбока, як быццам хацеў напоўніць паветрам не толькі лёгкія, але і ўсяго сябе.

— З зямлі цягне сокі, а з паветра — цяпло, сонца. І расце. І пахне. Ух, як пахне.

(Заканчэнне на стар. 14—15).

**Генрык ШЫЛКІН**

### *Пытанні*

Паэты — абаянне падворкаў—
Не адбірайце ля звалачных ям
Тэму смецця ў чарвякоў.
Не ствярайце элегій
Са шкарлупак лімона
Ці пагрызенай ігрушы.

Хто напіша паэму
Пра параліч чалавечага наіву?
Хто боль ад усмешкі
Лабірынтам быцця назаве?

Хто над розумам крыкне,
Што кожная з маці
Носіць драму Эйнштэйна
пад сэрцам?

### *Любоў*

Я ўлюбёны ў зямлю, дзе сляды
маладосці,
Дзе да верасу сцежка
прыходзіць у госці:

Яна ў лес завядзе, пастарэлы,
гусцюткі.
Па-над рыбнымі рэкамі ў сне
незабудкі.

Тут расяная ціш, зеляніны
калыска,
З вербалозаў густых гнёзды
ціўкаюць плісак.

Тут ад жоўтай свірэпы
шырэюць узгоркі,
Чырвань мак разлівае, і чабор
лічыць зоркі.

Тут — любоў да зямлі, свету
цуд самы першы...
Роднай маці-прыродзе саўю
вянок з вершаў.

### *Прызнанне*

Я ўсё аддам, апроч бяроз
вось гэтых,
І гнуткіх лоз на берагах Лакаі,
Што Сыракомлевым радком
апеты,
І кожнаю вясной мяне гукаюць.

Я ўсё аддам, апроч алешын
гэтых,
Што, як дзяўчаты, сталі над
Жэймянай,
І чуюць, як лілеі плачуць
летам,
І бачаць, як аер халодзіць
мята.

Я ўсё аддам, апроч расы вось
гэтай,
Што каля Вільні зоркі
выплаўляе,
Пад сінім небам — хусткаю
Сусвету —
Мой зрок да соснаў ранішніх
вяртае.

З польскай.
Пераклад
Валянціны АКОЛАВАЙ.

Альфрэд СЯТЭЦКІ

# ПЯСЧАНАЯ ГЛЕБА

БОЛЕЙ НЕ БУДЗЕ прасіць, сівы ён для таго, каб перад смаркачом вочы рукавом выціраць, глядзець, як той, уставіўшыся ў вугал, хавае позірк ад яго вачэй, што чакаюць таго адзінага слова, якога яму сёння напэўна не пачуць, бо ён—яго сын, а ягоны сын не можа быць мяккацелым, не можа вось так, па-цыганску, без барацьбы адмовіцца. Хай толькі не маўчыць, бо ён сам не дазволіць, каб яго сын прайграў нават яму, бацьку, хоць гэтая зямля яму фактычна ўжо не належыць. Не, не стары ён яшчэ, сіла ў руках даўнейшая, толькі зімы штогод даўжэйшыя, а дрэвы ў лесе таўшчэзныя, і сякера — тупая.

«Прадай зямлю і пераязджай да мяне», — вось з чым ён прыехаў, як быццам разумнейшаму не навучыўся. Столькі год жыве ён далёка ад роднай хаты і не знаходзіць больш разумных слоў, каб пераканаць бацьку, а па тэлебачанні вунь гавораць інакш, маладых да зямлі прывучаюць, яму аднак падабаецца хадзіць з паперамі пад пахай, ён гатовы есці чэрствы хлеб з танюсенькім, як лісток, пажоўклым сырам, калі тут столькі сала, курэй, што нясуць яйкі большыя за яго кулак, а ў садзе чарвівее пераспелая садавіна. Для каго ўсё гэта? Бацька занадта стары для мяса, апошні зуб трымае ў роце, каб пакаштаваць велікоднага пірага. Штогод чакае ён кавалка аплаткі, які сын прывозіць у тым самым партфелі, што зараз моцна трымае пад пахай і не ведае, як развітацца з бацькам: пацалаваць жылістую руку ці выйсці, прыўзняўшы капялюш, які таксама стары некалі купіў — хай выглядае, як гарадскі франт, хай памятае, што бацька ад яго нічога ўжо не патрабуе, што толькі адзінае гэта слова можа вырваць яго з рук кашчавай, якая з восені пільнуе за парогам. Яна ведае, што ўжо заўтра ён зоймецца непасільнай працай, пачне ўсляпую махаць сякерай, бо ў гэтым мураваным доме пад чырвоным дахам, зацягнутым павуціннем памяці пра дзядоў, пра жонку старога, нікога з маладзейшых няма. Не, ён гэтага слова не скажа. Шкада сына.

Па гэтай зямлі ступаў яго дзед, і бацьку яна носіць, і яго б насіла, бо гэта іх зямля, тутэйшая, хоць і пясчаная, хоць родзіць столькі, што да першага жніва ледзь хапае збожжа, але гэтай зямлі ніхто з іх не пакідаў нават тады, калі нямецкі пастар загадаў маліцца па-іхняму, калі пад зорнай пярынай неба бацька бег праз сасновы лес да ксяндза, каб даведацца, ці доўга яшчэ трэба чакаць той Польшчы, пра якую ў іх газеце так добра пісалі. Пасля гэтага ён мог толькі па-свойму падпісваць лісты і па-ранейшаму пераворваць свой пясчаны кавалак зямлі, калі ён мог толькі хадзіць за плугам і чакаць у полі прыходу бэзавай вясны. Тады ён быў такім, як сёння яго сын, не хацеў гаварыць «яволь», лічыў за лепшае змаўчаць, гледзячы проста ў бялкі іх вачэй, што ледзь не выкатваліся са злосці.

Ён усяго толькі яго сын, яго родная кроў, пералітая ў іншы, вольны, непакорны і яснейшы свет.

Гэта добра, што такое існуе, бо яго бацька не вучыў. А сына яго ўзялі ў школу, у інстытут, вучылі там... Чаму навучылі, калі яму непатрэбна родная зямля? Пясчаная яна? А якой ёй быць? На гэтай зямлі дзед пасадзіў некалі грушу, тую, што за гумном. Грушына патрэскалася ўжо ад маразоў, галіны яе ліжуць зямлю. І ён, як яго бацька, нікому не дазволіць спіліць дзічку, нават калі яна больш і не зацвіце, хай яна лепш высыхае, як сохне яго сэрца. Гэтая груша расла пры яго бацьку, ён сам зрываў з яе румяныя ігрушы і адпраўляў сыну пасылкі, поўныя сакавітых, жоўтых пладоў з уласнага саду. Выпраўляючы сына ў школу, ён думаў: паразумнее, спазнае людзей і свет, які не канчаецца за сасновым лесам. Радаваўся, калі сын ехаў на канікулы, хоць у полі ўжо паспявала жыта, а маці енчыла ад болю, які не сунімалі ўколы. Прымаў усё, бо ў сыне бачыў сябе самога і дзеда, які ў паліцыі паплявіў уласнай крывёю сцены. Бачыў зямлю, а на ёй — сына, які ступае па раллі з гонарам. Ён не выціскаў з гэтай зямлі ўсіх сокаў, думаў, што сына і так навучаць размаўляць з дзікімі птушкамі, хадзіць за плугам і паліць свечкі на магіле дзеда.

«Прадай зямлю». Тыя таксама казалі, загадвалі прадаць і ехаць за раку, дзе людзі інакш спявалі ў касцёле, дзе сонца ніколі не заходзіла і дажджы былі частымі. Ці можна прадаць зямлю? У гэтым пяску засталіся сляды яго босых ног, там чуваць і зараз яго лёгкія дзіцячыя крокі, якія ціхшэй за шум ветру, а над возерам растуць разгалістыя вербалозы, з якіх ён выразаў дудкі, а ў густым сасновым лесе на імховых дыванах растуць грыбы, якіх ён яшчэ не паспеў сабраць, а ў возеры плаваюць рыбіны, памерам з чалавечую далонь, і чакаюць чарвякоў з яго поля. І ён павінен усё гэта страціць? Сын не памятае, як плакаў над дзедам, які ляжаў у дубовай труне, упрыгожанай чырвонымі півонямі, як пытаўся: «Чаму дзядуля спіць?», як падабаліся яму працяглыя жалобныя галашэнні і тая скрыпка, якую дзед палажыў на шафу. Гэта скрыпка яго бацькі, сыну яна не спатрэбіцца, хай ляжыць, пакуль яшчэ сам ступае па гэтай зямлі, ён не дазволіць, каб яна гучала ў новай кватэры сына.

Мінуў той час, калі трэба было ўцякаць у поле, хавацца адураднікаў, цяпер засталася толькі пясчаная зямля, якая выкарміла сына і бацьку, гэтая зямля жывіць і дазваляе кабетам кранаць сябе рукамі.

# НАРОДЖАНЫ Ў КАШУЛІ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13).

Да машыны мы вярталіся па вузкай, моцна ўтаптанай сцежцы паміж ровам і берагам Одэра. Ля моста Сяргей Іванавіч раптам спыніўся, скінуў чаравікі, кашулю, порткі і ўскочыў у глыбокую ў гэтым месцы раку. Я хацеў паплыць за ім, але Тамара Іванаўна моцна прыціснула да сябе маю руку. Так мы з ёй і стаялі плячо ў плячо.

— Не трэба. Ён з Дона. Знае ваду, — сказала Тамара Іванаўна. — Што ён за чалавек, гэты Сяргей Іванавіч? — разважала яна далей. — Які ён? Усю дарогу маўчаў. Два-тры словы на гадзіну цадзіў. Можа, у яго якія клопаты? З дзецьмі, напрыклад? З творамі? Дзеці не выхоўваюцца, творы не пішуцца. Які ён, гэты Сяргей Іванавіч?—паўтарала яна праз кожныя пару крокаў, бо мы ішлі праз мост да таго, больш высокага, скалістага берага, да якога плыў зараз Сяргей Іванавіч.

Перагнуўшыся праз густа закратаваныя поручні моста, я лічыў хвіліны, у якія ён цалкам хаваўся ў цёмна-рудаватай вадзе, што плыла паволі, амаль непрыкметна. Я дагэтуль не сустракаў мужчыны яго ўзросту, які б плаваў так добра. Я вярнуўся да Тамары Іванаўны, якая ішла роўнай хадою, трымаючыся за метры два ад поручняў, як быццам баялася прасторы.

— Вы яшчэ такі малады, Юра, вы нічога не разумееце.

— Не такі ўжо і малады.

— Вы мне, як сын. Як сын, які мог бы ў мяне быць, — удакладніла яна.

— У вас ёсць сын майго ўзросту?

— Не. У мяне не было мужа. Мой жаніх загінуў пад Берлінам, як вы сказалі, за дзве гадзіны язды адсюль. Так, Юрка?

— Язды — на добрай машыне.

Сяргей Іванавіч спрытна ўзбег на скалісты бераг і ўжо скакаў там то на левай, то на правай назе, вытрасаючы ваду з вушэй. Вадзіцель, які чакаў яго там, абагнаўшы нас, накрыў плыўца крацястай коўдрай, знятай з сядзення.

— Вось так і выратаваўся, — сказаў Сяргей Іванавіч. — Вада, вада... Столькі пазабірала, а мяне вось выратавала. Добрая вада. Маці родная. Я з вадой з дзяцінства запанібрата.

І расказаў, што недзе тут, недалёка, у распалажэнні дывізіі, у нейкай будыніне з чырвонай цэглы яго агледзелі і не знайшлі ніводнай драпіны. А немцы ж стралялі ў яго, шалеючы ад злосці, ад таго, што ён так лёгка выслізгваецца з іх рук.

Сяргей Іванавіч хаваўся за падпоры, ныраў. Гэта яго, безумоўна, і выратавала. Ён быў тады малады і вельмі добра плаваў, яшчэ лепей, чым зараз.

— І вы атрымалі...? — дадаў шафёр, самы цікаўны з нас.

— Ордэн, — засмяяўся Сяргей Іванавіч, — там ордэн атрымаць было лягчэй, чым адпачынак... І шклянку спірту. І сала на закуску. Як у рэстаране.

Мы ехалі праз каменныя, старанна прыбраныя прыгарадныя вёсачкі. А ў атэлі даўно ўжо чакалі з прывітальным абедам.

— Я ўсё шукаў канца сваёй кнізе. Думаў, доўга думаў і ўсё не знаходзіў. Зараз я ўжо яго ведаю, — Сяргей Іванавіч уздыхнуў, як чалавек, які скончыў доўгую і цяжкую працу. — Напішу, што я яшчэ раз пераплыў гэтую раку. І ў тым самым месцы. А гэта зараз сурова забараняецца. Праўда, Юрка, «сурова забараняецца»? Такім вось і будзе канец.

Сяргей Іванавіч злажыў два пальцы — вялікі і ўказальны— і зрабіў такі рух рукою, як быццам сапраўды атрасаў з пяра чарніла, каб паставіць кропку ў канцы рукапісу, які складаўся з соцень старонак.

—Вы ж і так маглі гэта напісаць. Нашто было рызыкаваць? Хто б стаў гэта правяраць?

— Я! — адказаў Сяргей Іванавіч, відавочна здзіўлены маім пытаннем. — Я для сябе — самы галоўны крытык. У мяне ў кнігах усё, як у жыцці. І не болей. Не так даўно адзін маскоўскі крытык напісаў, што я сваё жыццё занадта чарню. Адбельваць быццам бы трэба... Дурань ён!

Мы нават не заўважылі, калі апынуліся перад уваходам у атэль. На вышыні другога паверха доўгі і шырокі транспарант зялёнымі літарамі на дзвюх мовах вітаў гасцей заўтрашняга сімпозіума.

І вось пасля позняга абеду, ці, можа, ранняй вячэры, мы ў нумары Сяргея Іванавіча.

Тамара Іванаўна, стомленая падарожжам і ўражаннямі дня, пажадала пабыць адна.

Пра што наша гаворка? Я— пра тое, што не магу перасіліць страх і паказаць каму-небудзь тое, што пішу мікраскапічнымі, хоць і выразнымі літарамі; ён — што я баюся жыцця, а калі баяцца яго, дык нічога вартага ніколі не напішаш, бо жыццё трэба браць такім, якое яно ёсць. А пісанне — яно як кожная іншая справа, ніякага сораму ў тым няма, калі нават пішаш дрэнна. Я тлумачыў яму, што ўвесь аж дрыжу над чыстым лістом паперы, які для мяне — як далікатная чалавечая скура, якую я магу неабачліва запляміць, зняважыць сваімі чарнільнымі крамзолямі: дрэва ж сто гадоў не толькі расце, але і паспяхова супрацьстаіць сусветным войнам, ураганам-вярнідубам, перш чым яго павязуць на фабрыку паперы, а я колькі б мог на працягу дня спэцкаць белых лістоў... Ён — каб я пра гэта як мага хутчэй напісаў, каб пазбавіўся ад такіх думак, бо пісанне — пазбаўленне ад таго ў нас, чаго набралася звыш меры, і што вельмі вострае, і таму пячэ, душыць і кіпіць, нават, калі не мае значэння для іншых. І яшчэ, каб я пачаў пісаць пра сваё жыццё, бо жыццё, кожнае жыццё — гэта адзіны экземпляр кніжкі, ніхто іншы такой не мае і ніколі не займее. Памятай, Юрка, — жыццё і толькі жыццё, нават калі даведаешся, што заўтра памрэш. А сёння — жыві так, як быццам перад табой яшчэ сто гадоў.

Назаўтра, перад самым перапынкам на абед, адзначаным у праграме, Сяргей Іванавіч раптам папрасіў слова. Такі час не спрыяе прамоўцам, бо страўнікі слухачоў ужо патрабуюць свайго.

Калі ў дадатак да ўсяго Сяргей Іванавіч доўга і не надта спрытна ішоў да трыбуны па цесных, драўляных, коўзкіх прыступках без поручняў, усіх ужо апанавала тая стомленасць, якая звычайна ахоплівае ў гэты час усе канферэнц-залы свету.

— Віншую, шчыра віншую! Я ніколі яшчэ не чуў, каб пра вайну так гаварылі. Усе нават затаілі дыханне, — гаварыў я Сяргею Іванавічу, падыходзячы да яго пасля выступлення, пасля якога ўсе неяк павольней, чым звычайна, пачалі разыходзіцца на абед.

— Не ўсе. Я дыхаў, як звычайна.

Нехта ззаду шчыра засмяяўся. Нейкі малады голас.

Мы накіраваліся ў рэстаран, што знаходзіўся на другім баку шырокай і ажыўленай у гэтыя часы вуліцы.

— Пра вайну таксама трэба ўмець расказваць, — заўважыла Тамара Іванаўна.

— Расказваць? — здзівіўся Сяргей Іванавіч. — Пра вайну трэба ўмець думаць. Як пра жыццё і смерць. Для адных вайна была смерцю, а для другіх — жыццём.

— Што мы робім пасля абеду? — перапыніла яго разважанні Тамара Іванаўна, чалавек практычны і цікаўны, відаць, і не без кроплі зайздрасці да поспеху Сяргея Іванавіча, бо яе акадэмічнае выступленне на пачатку дыскусіі не мела поспеху.

— Згодна раскладу.

— Што канкрэтна? — спытала яна.

— З шаснаццаці да васемнаццаці, — прачытаў я па машынапіснай праграмцы, з якой не расставаўся, каб чаго-небудзь не прапусціць, — ускладанне кветак на магілках савецкіх салдат, якія палеглі пры фарсіраванні Одэра.

— Паедзем?

— Жыццё — гэта язда, хіба не так, Тамара Іванаўна? І на гэтае, апошняе месца, таксама адвязуць, бо каму б хацелася насіць нас?

На выездзе з горада Тамара Іванаўна раптам сказала, што калі пастаянна шмат робіш для іншых, абавязкова надыходзіць такі момант, калі хочацца рабіць толькі для сябе. Для процівагі. Псіхіка сама гэта рэгулюе.

Я дадаў, што такой дзейнасцю, скіраванай выключна на задавальненне ўласных патрэб, лічу паэзію.

— Што вы, Юрка, што вы! Вершы заўсёды пішуцца для іншых, — запярэчыла Тамара Іванаўна і зірнула на Сяргея Іванавіча, быццам шукаючы ў яго падтрымкі.

Але вочы Сяргея Іванавіча былі абыякавыя, стомленыя, пацягнутыя тонкім колерам свежага попелу.

— Кожны з нас мае ў сабе такое месца, адкуль можа пачацца няшчасце.

— І вы лічыце, што гэтыя месцы знішчаюцца пры дапамозе слоў? Устань, чалавеча! Ты здаровы! Слова цябе выратавала. Я ў такое ўжо не веру.

— А я яшчэ веру. Інакш не пісала б.

—Што можа мой верш, альбо ваш, пані Тамара, альбо кніга пана Сяргея супроць касмічных караблёў, электроннага мозгу, супербомб і яшчэ чаго-небудзь, што прыдумаюць заўтра? Што можа ўся наша пісаніна супроць усяго гэтага? Наш век — не пісьменніцкі. Мы спазніліся на цэлае стагоддзе. І ўвесь час займаемся ашуканствам, супакойваючы сябе, што гэта не так.

Цяпер ужо я шукаў пацвярджэння ў Сяргея Іванавіча.

# ЯКІ ЦУДОЎНЫ ГЭТЫ СВЕТ!

«Дзяўчынка з блакітным шарам», выкананая Наташай Дзівінай з вёскі Сенніца Мінскага раёна, — сімвал шчаслівага, радаснага маленства, — стала своеасаблівым пралогам экспазіцыі XXXI Рэспубліканскай выстаўкі дзіцячай выяўленчай і дэкаратыўна-прыкладной творчасці, прысвечанай 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і 65-годдзю Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна. Дзве тысячы твораў аўтараў ва ўзросце ад пяці да васемнаццаці гадоў занялі тры паверхі Палаца мастацтваў у Мінску. Сярод удзельнікаў выстаўкі — члены студый выяўленчага мастацтва палацаў і дамоў піянераў і школьнікаў, вучнёўскіх гурткоў, навучэнцы вучэбна-вытворчых камбінатаў і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, выхаванцы дзіцячых садоў. Яны прадставілі малюнкі і гліняныя цацкі, габелены і скульптуры, разьбу па дрэве і вышыўку. Аб'ядноўвае ўсе гэтыя работы найперш непасрэднасць, смеласць фантазіі.

Асабліва гэта тычыцца малюнкаў самых юных удзельнікаў вернісажа. Дзяўчынкі і хлопчыкі спрабуюць перадаць хараство навакольнага свету, паказаць любімых герояў казак і кніг, стварыць партрэты сяброў і блізкіх. Асобныя работы пазначаны ўжо чырвонымі і зялёнымі шматкамі паперы — гэта прадстаўнічае журы рыхтуецца да падвядзення вынікаў, вядзе адбор прэтэндэнтаў на прызы. Юным мастакам — радасць, вядома, а нам, дарослым наведвальнікам выстаўкі, найперш імпануе яе масавы характар, тое, што яна — і свята далучэння дзяцей да свету прыгожага, і своеасаблівая школа эстэтычна-мастацкага, маральна-духоўнага выхавання.

Нямала ў экспазіцыі работ, выкананых выхаванцамі Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка. Зразумела, яны вызначаюцца больш высокім прафесійным узроўнем, больш выразнай кампазіцыйнай пабудовай. І ўсё ж і тут найбольш прываблiваюць тыя творы, у якіх засталася тая самая дзіцячая непасрэднасць.

Паспяхова авалодваюць сакрэтамі прафесійнага майстэрства навучэнцы бабруйскага прафесійна - тэхнічнага вучылішча № 16. Разьба па дрэве — даўні і адначасова складаны жанр народнай творчасці, сакрэты якога падуладны толькі чалавеку, які па-сапраўднаму улюбёны ў сваю справу і адначасова валодае немалымі творчымі задаткамі. Чагочага, а майстэрства юнакам і дзяўчатам не займаць, ды і фантазія ў іх багатая, пра што красамоўна сведчаць іх работы.

Шырока прадстаўлены ў экспазіцыі набіўныя цацкі, шмат месца адведзена фларыстыцы, лясной скульптуры, букетам з жывых і засушаных кветак — каля 400 работ выканана ўдзельнікамі Рэспубліканскай, абласных, гарадскіх станцый юных натуралістаў. Нельга абмінуць увагай творы наведвальнікаў міжшкольных вучэбна-мастацкіх камбінатаў — хлопчыкі і дзяўчынкі не толькі раскрываюць свае творчыя здабыткі, але і працуюць над рэчамі, якія ў далейшым змогуць мець і практычнае значэнне.

Тры паверхі Палаца мастацтваў займае чарговая рэспубліканская выстаўка дзіцячай творчасці. Яна ўспрымаецца сапраўдным гімнам маленству, жыццю, міру, паказвае наведвальніку, які цудоўны ён, свет, у якім усе мы жывём, і як важна зберагчы яго для нашчадкаў.

А. КУНЦЭВІЧ.



Р. ЖЫХАРКА. «Увесь свет насілля мы разбурым...». (12 год. Навагрудскі гарадскі Дом піянераў. Кіраўнік В. Грэк).



В. ГРЫЦАЕВА. Працоўная раніца. (16 год. Рэспубліканская школа-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка. Кіраўнік С. Федарэнка).



А. ЯРАШЭВІЧ. Несцерка. Фрагмент. (Навучэнец Бабруйскага СПТВ-16. Кіраўнік А. Кацнельсон).



БЕЛАРУСАЧКІ. Калектыўная работа. (Аўтарам ад 10 да 11 год. Гуртож керамікі Рэспубліканскага Палаца піянераў і школьнікаў. Кіраўнік Э. Фокіна).



У адной з залаў выстаўкі.

## У бліжэйшых нумарах «ЛіМ» друкуе:

Артыкулы, нарысы, нататкі да 70-годдзя Кастрычніка;

публіцыстычныя выступленні і даследаванні на тэмы дня, па надзённых праблемах перабудовы А. Булыкі, М. Гуціева, В. Дранчука, С. Дубаўца, М. Замскага, В. Казько, А. Карпюка, І. Клімашэўскай, У. Мехава, В. Пашкевіча, Віт. Тараса, М. Трафімчука, А. Хатэнка;

рубрыкі «Палітыка, ідэалогія», «З далёкіх і блізкіх дарог», «Нашы госці»;

апавяданні Я. Брыля, Т. Бондар, В. Гігевіча;

рэцэнзіі А. Сідарэвіча на новую аповесць В. Быкава «У тумане» і Д. Бугаёва на кнігу вершаў П. Панчанкі «І вера, і вернасць, і вечнасць»;

літаратурна - крытычныя артыкулы Т. Грамадчанка, В. Грыцкевіча, А. Жураўскага, Л. Дранько-Майсюка;

вершы Васіля Віткі, В. Дашкевіча, Г. Каржанеўскай, У. Марука, Я. Міклашэўскага, П. Панчанкі, А. Разанава;

пераклады;

агляды спектакляў Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа, Магілёўскага і Гродзенскага абласных драматычных тэатраў;

нататкі з Устаноўчай канферэнцыі Музычнага таварыства БССР;

гутаркі са старшынёй Дзяржкамвыда БССР М. Дзяльцом, старшынёй праўлення Саюза мастакоў БССР У. Стальмашонкам і галоўным дырыжорам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР Ю. Яфімавым;

агляды чытацкай пошты, інтэрв'ю, рэпартажы, хроніку літаратурнага і культурнага жыцця рэспублікі.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 02162 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.